PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (1926) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 11 КРАСАВІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Вербы.* **Фота В. Волкава**

## РУСІСТЫ-ДЭРУСІФІКАТАРЫ

Пасля адмены амаль паўвекавога абавязку навучання рускай мовы ва ўсіх тыпах школ у Польшчы, зараз наглядаецца зусім адваротная з'ява — імкненне да ліквідацыі яе навучання коштам заходнееўрапейскіх моў. І калі б не недастатак кваліфікаваных англістаў, раманістаў і германістаў, большасць русістаў папоўнілі б рады беспрацоўных. На працягу апошніх двух-трох гадоў там, дзе толькі для гэтага ёсць магчымасць, выводзіцца навучанне рускай мовы, а русістам прапануюцца курсы па перакваліфікацыі, напрыклад на англістаў. Рэфармуюцца, а найчасцей скарачаюцца, аддзяленні рускай філалогіі ў вышэйшых навучальных установах, бо ўжо не трэба рыхтаваць такой колькасці настаўнікаў-русістаў.

Трэба спадзявацца, што гэты працэс не прывядзе да паўсюднага выкаранення гэтага прадмета ў школах, што гэта толькі часовая дэманстратыўная рэакцыя грамадства на адміністрацыйны абавязак вывучаць рускую мову ў папярэдняй эпосе. Здаецца мне, што не ідэалагічныя абумоўленні, а эканамічны інтарэс накіруе ўвагу польскіх гаспадарчых дзеячоў на пустуючы ўсходні рынак і менавіта ён будзе шанцам на ажыўленне краёвай вытворчасці. Тады іменна эканоміка выкліча зацікаўленне ўсходнеславянскімі мовамі, заставіць ведаць іх прадпрымальнікаў, якія захочуць рабіць свой бізнес на Усходзе.

Вышэй сказанае — гэта будучыня, а сёння русісты апынуліся ў надта складанай сітуацыі і церпяць не па сваёй віне. Напрыклад, абвінавачваюцца яны ў спробе русіфікацыі і саветызацыі Польшчы. Гэта ж настаўнікі-русісты не толькі вучылі мове, але і прапагандавалі веды пра „Союз нерушимый республик свободных", ладзілі ранішнікі і вечарыны з нагоды Кастрычніцкай рэвалюцыі, апекаваліся школьнымі гурткамі польска-савецкай дружбы. Пералік „злачынных" дзеянняў настаўнікаў рускай мовы можна было б цягнуць у бясконцасць. Але, сябры русісты, не пападайце з-за гэтага ў роспач. Аказваецца, аднак, што вашыя дзеянні не былі зусім і такімі злачыннымі. Вы можаце нават стаць героямі як змагары супроць русіфікацыі нашай краіны. Вось нядаўна на старонках вельмі папулярнага агульнапольскага тыднёвіка адзін з вядомых русістаў з Польскай акадэміі навук сцвердзіў, што... „русіфікацыя не пагражала нам ніколі. Праўда, усе павінны былі вывучаць рускую мову, але першым патрыятычным абавязкам (так як язда зайцам у час акупацыі) было нічога не засвоіць. Нават частка настаўнікаў, як калісьці даведаўся я і аж жахнуўся, па патрыятычных прычынах вучыла кепска". І сапраўды, мала хто вывучыў у школе рускую мову (заходнееўрапейскую таксама), а калі і хтосьці яе сяк-так ведае, дык не са школьнай парты, а хутчэй з базараў па абодвух баках мяжы.

Не падайце духам, сябры русісты! Перад вамі адкрываецца вялікая перспектыва: калі не на працу ў сваёй прафесіі, дык на членства ў арганізацыі ветэранаў, што змагаліся з русіфікацыяй і саветызацыяй.

**В. ЛУБА**

## ГОДНА АДСВЯТКАВАЛІ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Сёлета святкаванне ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі прайшло ў Беластоку ўпершыню на належным і, так сказаць, высокім узроўні. Беларускія арганізацыі, якія нядаўнім часам аб'ядналіся ў Беларускі саюз у Польшчы, вылучылі арганізацыйны камітэт святкавання ўгодкаў БНР. Вялікім маральным апірышчам для арганізатараў святкавання была дастойная прысутнасць у Ганаровым арганізацыйным камітэце Яго Праасвяшчэнства, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага, уладыкі Савы. У Ганаровы камітэт увайшлі таксама прадстаўнікі ваяводскае і гарадское ўправы, паслы на Сейм РП з нашага рэгіёна і старшыні беларускіх арганізацый.

Угодкавыя ўрачыстасці пачаліся ў серады (24 сакавіка) паніхідай у саборы св. Мікалая ў Беластоку за душы памёршых змагароў за вызваленне Беларусі. Айцец мітрат Серафім Жалезняковіч, які адпраўляў паніхіду, сказаў перад ёю:

*Беларуская грамадскасць Беластока заказала паніхіду за душы сыноў і дочак беларускай зямлі, якія памерлі і загінулі ў савецкай нявол, а таксама за тых, хто, пазбягаючы тае няволі, пакінуў Бацькаўшчыну і спачыў на чужыне. Няхай нашай шчырай малітве спадарожнічае памяць аб іх.*

У чацвер (25 сакавіка) у тым жа саборы св. Мікалая Яго Праасвяшчэнства ўладыка Сава адправіў урачысты малебен за Беларускі Народ. На малебне прысутнічаў пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы сп. Уладзімір Сянько.

Айцец Рыгор Місяюк перад малебнам падкрэсліў вернікам маральна-духоўную важнасць таго факту, што разам з адраджэннем веры ў беларускім народзе адраджаецца і сам народ да самастойнага нацыянальнага жыцця.

Пасля малебна адбылася свецкая частка святкавання 75 гадавіны БНР. У зале Ваяводскага асяродка анімацыі культуры сабралося каля двухсот чалавек на ўгодкавую вечарыну. Сваёй прысутнасцю ўрачыстасць уганараваў уладыка Сава. Прысутнічалі таксама: прэзідэнт Беластока Лех Руткоўскі, прадстаўнік беластоцкага ваяводы — дырэктар Аддзела грамадзянскіх спраў Ваяводскай управы Гжэгаж Рыкоўскі, пасол ад Дэмакратычнай уніі з Беласточчыны Ежы Капаня, пасол РБ у Польшчы Уладзімір Сянько, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ ад Беларускага народнага фронту Сяргей Навумчык.

Алег Латышонак, старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, прачытаў угодкавы рэфэрат, у якім абрысаваў перад прысутнымі беларускі шлях да незалежнасці. З рэфлексіяй наконт новай сітуацыі ў дачыненнях Польшча — Беларусь выступіў Тамаш Шчэпанскі з Варшавы (адзін з заснавальнікаў таварыства „Pomost").

З дэкламацыямі вершаў беларускіх паэтаў выступілі Марыя Аліфер і Янка Мордань (дзейсныя ўдзельнікі беларускага маладзёжнага вандроўнага тэатра „Балаган"). Дасканалым заключэннем кароткае і змястоўнае вечарыны было выступленне харавой групы „Маланка" з Бельска пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. „Маланка" выдатна праспявала колькі беларускіх народных песняў перад прыхільнай публікай.

Святкаванне мела, можам сказаць, агульнабеларускі характар, паколькі на малебне і на вечарыне прысутнічалі беларусы не толькі з Беластока, але і з Гарадка, Бельска, Гайнаўкі, Нарвы і іншых мясцовасцяў. У адрас непасрэдных арганізатараў можна скіраваць адзін папрок — яны не спадзяваліся, што святкаванне прыцягне так многа зацікаўленых, і нанялі крыху замалую залу. Выпадае шкадаваць, што шмат каму не хапіла седзячых месцаў. І спадзявацца, што ў наступным годзе гэткая недабачлівасць будзе ліквідаваная. Персанальна хацелася б падзякаваць старшыні БДА Алегу Латышонку і сакратару БДА Юрку Каліну, якія ў падрыхтаванне сёлетняга святкавання ўгодкаў БНР уклалі найбольш высілку і сэрца.

**ЯН МАКСІМЮК**

P.S. У суботу (20 сакавіка) угодкі абвешчання БНР былі адзначаны Беларускім грамадска-культурным таварыствам асобнай урачыстасцю.

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Poświęcenia (drogowego przejścia granicznego w Bobrownikach — red.) dokonali wikariusz generalny Archidiecezji Białostockiej — biskup Edward Ozorowski w towarzystwie ordynariusza Diecezji Grodzieńskiej — biskupa Aleksandra Kaszkiewicza oraz ksiądz proboszcz prawosławnej parafii w Brzostowicy Małej — ojciec Wieczysław.*

*(Gazeta Współczesna, nr 61)*

Арганізатары адкрыцця прапускнога пункту ў Бабровніках, відаць, забылі пра праваслаўнага архіепіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі, і пра праваслаўнага настаяцеля мастаўлянскага прыхода, да якога прыналежаць Бабровнікі.

* * *

*Krwi może być dużo. Jesteśmy zdecydowani działać bezkompromisowo. Ale przecież Rosja od stuleci leczyła swoje polityczne i ekonomiczne dolegliwości puszczaniem krwi. Inna kuracja naszemu mocarstwu nie pomaga.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 69)*

Гэта — з выказванняў расейскіх афіцэраў польскаму журналісту. І, здаецца, што трэба гэта разумець зусім літаральна, а не метафарычна. Таксама трэба меркаваць, што не кітайцам збіраюцца расейцы паправіць кровазварот.

* * *

*Chcielibyśmy ograniczyć przyjazdy do Polski nie tylko obywateli b. ZSRR, ale także Niemców, Czechów i Słowaków. Natomiast dla nas wszystkie granice powinny być szeroko otwarte.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 70)*

Wizowe prawo Kalego — гэтак *Gazeta Wyborcza* падсумоўвае польскую візавую палітыку. Ну й добра. Хай сабе тут будзе і Афрыка, але хай урэшце **нешта канкрэтнае** будзе.

* * *

*У хуткім часе самы звычайны грамадзянін Беларусі, пэўна, атрымае магчымасць легальна і не выязджаючы за межы рэспублікі купіць пісталет. Праўда, пакуль што толькі газавы.*

*(Звязда, н-р 47)*

Цяпер будуць узброеныя і самыя звычайныя. Звычайныя мелі магчымасць набыць пісталет раней (звычайны, вядома ж).

* * *

*Ці накорміць фермер краіну?*

*(Звязда, н-р 48)*

Безумоўна. Амерыканскі фермер.

* * *

*Умела карыстаецца так званай тэорыяй карыта наша наменклатура. У будынку Савета Міністраў аж шэсць абедзенных залаў. У іх не толькі розны сэрвіс, але ж і меню. Ніжэйшы слой сам ідзе з падносам да раздачы. Выслужыўся — пераводзяць у той, дзе ўжо афіцыянт і больш разнастайнае меню. (...) Па меры таго, як дэпутаты-крытыкі асвойвалі абедзенныя залы Саўміна, атрымвалі пуцёўкі ў наменклатурныя санаторыі ды ездзілі ў складзе дэлегацыі за мяжу, і пачалі паводзіць сябе ціхэй, часцей нахвальваць начальства.*

*(Народная газета, н-р 50-51)*

Усё нармальна. Гэта і ёсць Еўропа. Галодны чалавек то й пукнуць не хоча, а што казаць пра прыманне законаў. Жуе Беларусь!

## З мінулага тыдня

**У Менску** пасол РП **Альжбета Смулкова** і віцэ-міністр замежных спраў РБ **Аляксандр Сцепаненка** абмяняліся ратыфікаваным абодвума парламентамі „Трактатам аб добрым суседстве".

**Польшча і Беларусь** хочуць павялічыць транзіт беларускіх тавараў цераз Польшчу з некалькіх сот тысяч тон у год да некалькіх мільёнаў тон. На гэтую тэму вяліся ў Малашэвічах размовы міністра камунікацыі Беларусі **Сцяпана Шкапіча** з віцэ-міністрам транспарту **Тадэушам Шоздам**. Чыгуначны перагрузачны вузел у Малашэвічах з'яўляецца самым вялікім на нашай усходняй граніцы. Тым часам яго сутачныя перагрузачныя магчымасці выкарыстоўваюцца толькі ў адной чацвёртай. „У апошніх гадах нашыя тавары экспедзіравалі мы ў свет цераз Чорнае мора і Маньчжурыю, — сказаў журналістам міністр Шкапіч. — Хочам змяніць гэта і вывозіць тавары ў свет цераз Польшчу і цераз порт у Гдыні. Польшча можа стацца транзітнай краінай не толькі для Беларусі, але таксама і для іншых дзяржаў СНД, напрыклад, для Казахстана ці Узбекістана".

**Прафесар Лешак Бальцаровіч** стаў эканамічным дарадчыкам урада Украіны. Як заявіў прэс-сакратар віцэ-прэм'ера Віктара Пынзеныка „Бальцаровіч будзе даваць парады ўраду ў многіх розных гаспадарчых справах".

„Прынята ўжо рашэнне аб стварэнні **Кафедры польскай філалогіі ў Віленскім універсітэце**", — паінфармаваў на сустрэчы з журналістамі пасол РП у Вільні **Ян Відацкі**. Калі пачнуцца заняткі ў зліквідаванай 54 гады таму назад кафедры, яшчэ не ўстаноўлена. Польшча, якая падтрымае кафедру з навуковага боку, спадзяецца таксама на дапамогу Літвы для двух кафедраў літоўскай філалогіі — у Варшаве і Познані.

**У Варшаве** адбылася міжнародная канферэнцыя, прысвечаная аналізу стану арганізаванай злачыннасці і спосабам супрацьдзеяння тэрарызму ў посткамуністычных краінах. Фонд „Еўропа 2000", які быў ініцыятарам гэтай нарады, аб'ядноўвае 16 краін і ўжо трэці год ладзіць канферэнцыі дзеля выпрацоўкі канцэпцый дзеяння зацікаўленых бакоў. Яшчэ ў гэтым годзе адбудзецца сустрэча ў Берліне ў справе еўрапейскай бяспечнасці.

**Сенат Варшаўскага універсітэта** прыняў пастанову, у якой звярнуўся да рэктараў і членаў сенатаў **Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, Архідыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі, Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы і Музычнай акадэміі** з просьбай выказаць сваю пазіцыю наконт аб'яднання і стварэння такім чынам Універсітэта ў Беластоку. Гэтая пастанова з'яўляецца адказам на ўхвалу сенацкай камісіі па справах Філіі, у якой былі сфармуляваныя аргументы ў справе неабходнасці стварэння вышэйшай навучальнай установы ў паўночнаўсходнім рэгіёне, *„на пагранічны некалькіх нацыянальнасцей, моў, культур і рэлігій, на асаблівым палітычным, гаспадарчым і прыродным абшары. У суседстве Расіі, Літвы і Беларусі..."* Пакуль што ніводная з вышэй згаданых ВНУ не выказалася яшчэ ў справе магчымага аб'яднання.

**У Ваяводскай камендатуры Паліцыі** ўстаноўлена, што пад канец красавіка пачнуцца душпастырскія дзяжурствы паліцыйных капеланаў. Кожны панядзелак на працягу двух гадзін душпастырскую паслугу будуць несці **а. Анатоль Конах** з Беластока і **кс. Генрык Антоні Глінка** з рымска-каталіцкай парафіі ў Чорнай-Беластоцкай.

**У нацыянальным музеі ў Познані** адкрылася выстава прац мастака і праваслаўнага тэолага **Ежы Навасельскага**. Познанская выстаўка, на якой можна паглядзець 350 карцін і малюнкаў з гадоў 1943-1992, будзе адкрыта да канца мая, а затым пераедзе ў Вроцлаў і Варшаву.

**Ужо 105 тысяч чалавек**, пацярпеўшых ад III Рэйха, атрымалі грошы ад Фонду „Польска-нямецкае прымірэнне". На разгляд чакае яшчэ 216 тысяч спраў.

**Апошнім часам** пайшлі ў свет чуткі аб магчымым упадку бельскай газеты **„U siebie"**. Прычынай гэтага мела быць незадавальненне ўлад горада няслушнай нібыта крытыкай яе пачынанняў, што ў выніку давяло да спынення датацыі на выданне газеты. Раней такі сам лёс спаткаў мясцовую гайнаўскую газету **„Gościniec Hajnowski"**.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- Велікоднае пасланне Уладыкі Савы.
- Роздумы Сакрата Яновіча: хто і каго робіць у дурня.
- Ада Чачуга размаўляе з артыстам Беларускага дзяржаўнага тэатра Юрыем Аўяр'янавым, а Мікола Ваўранюк з жыхарамі Гарадоцкай гміны.

*ЧЫТАЧАМ „НІВЫ", якія ВЯЛІКДЗЕНЬ святкуюць 11 красавіка, жадаем прыемнага адпачынку ў гэтыя Вялікія Дні, а таксама ўсяго найлепшага ў асабістым, сямейным і грамадскім жыцці.*

*РЭДАКЦЫЯ*

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НАДАКУЧЫЎ НЕЙТРАЛІТЭТ, А МОЖА І СУВЕРЭНІТЭТ?

Сенсацыйную заяву зрабіў днямі прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, а таксама кіраўнікамі мясцовых саветаў Вячаслаў Кебіч выказаў ідэю адраджэння Міждзяржаўнага эканамічнага саюза. Акрамя таго, прэм'ер-міністр засумняваўся ў мэтазгоднасці існавання Беларусі як нейтральнай дзяржавы. На думку Кебіча, рэспубліцы трэба падтрымаць дагавор аб калектыўнай бяспецы краін-членаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Ідэі Кебіча, між іншым, актыўна падтрымалі пракамуністычныя сілы Беларусі, якія ўжо даўно лямантуюць аб адраджэнні былога СССР.

### У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ ЗНОЎ РЫЮЦЬ ДОЛ ДЛЯ КАПІТАЛУ

З усіх творчых арганізацый для КПБ-КПСС, бадай, важнейшым і, натуральна, найбольш прывілеяваным з'яўляўся Саюз пісьменнікаў (СП) Беларусі. Многія яго члены плацілі шчырай любоўю да „кіруючай і накіроўваючай". Ні Чарнобыль, ні нават путч не здолелі пахіснуць веру некаторых нашых „песняроў" у перамогу камунізму.

Днямі ў рэспубліцы пачалося аднаўленне партыйнай арганізацыі пісьменнікаў-камуністаў. Па звестках „Звязды" ужо каля 20 беларускіх пісьменнікаў, як і належыць дысцыплінаваным партыйцам, заплацілі (хто колькі мог) членскія ўзносы і збіраюцца рэанімаваць былую „пярвічку". Сярод аднаўленцаў кампартыйнай пісьменніцкай ячэйкі пераважную колькасць складаюць людзі „пенсійнага ўзросту", якім найцяжэй паступіцца прынцыпамі. Вось толькі ці ўдасца гэтым „інжынерам чалавечых душ" выдаць у постсацыялістычнай Беларусі новыя „ідэалагічна" вытрыманыя шматтомныя творы?

### КРОК НАПЕРАД ЦІ ДВА НАЗАД?

20 сакавіка ў Менску адбыліся дэманстрацыя і мітынг левых сілаў, прысвечаныя 50-годдзю Хатынскай трагедыі і другой гадавіне Усесаюзнага рэферэндуму. Лозунгі і выступленні былі прасякнуты антываенным пафасам. Падкрэсліваючы свае негатыўныя адносіны да канфрантацыі ў грамадстве, удзельнікі акцыі заявілі, што не могуць маўчаць, калі зневажаюцца Канстытуцыя, закон, мараль.

### ЗА РАДЗІМУ ЛЮБІМУЮ ЖАХ

Споўнілася год з моманту падпісання лідэрамі пяцідзесяці палітычных, культурных, патрыятычных, грамадскіх і дзяржаўных арганізацый і ўстаноў рэспублікі славутага Антыкрызіснага пагаднення.

Зусім верагодна, што юбілей так і застаўся б незаўважаным, бо за гэты год камітэт не падаваў прыкмет жыцця. Тым не менш бацькі-заснавальнікі — кіраўнікі Беларускага згуртавання вайскоўцаў і лідэры шэрагу маладых дэмакратычных партый рэспублікі лічаць, што „пакт згоды" не страціў не толькі сваёй моцы, але і актуальнасці і будзе патрэбны яшчэ доўга. Адкуль сёння зыходзіць пагроза нашай незалежнасці? Адкрыта і аднадушна была названа Расея. Палітычныя працэсы, якія зараз адбываюцца ў былой „сястры" не дазваляюць і беларусам спаць у шапку.

### ТРЭБА ДОМА БЫВАЦЬ ЧАСЦЕЙ...

З нагоды святкавання 75-х угодкаў БНР Беларусь наведалі вядомыя прадстаўнікі беларускай эміграцыі —старшыня Рады БНР доктар Язэп Сажыч і выдатны выканаўца беларускіх песень, супрацоўнік радыёстанцыі „Свабода" ў Мюнхене Данчык.

### АДКРЫВАЕМ МЕНСК

Упершыню ў гісторыі рэспублікі ўбачыў свет інфармацыйна-рэкламны даведнік пра Менск. Выданне даведніка тыражом 10 тысяч экземпляраў сведчыць пра тое, што і беларуская сталіца, нарэшце, мае нейкае дачыненне да кагорты буйных гарадоў планеты.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПОРТ ПРЫПІСКІ — ГДАНЬСК

Два грузавыя судны — „Грунвальд" і „Гвардыя Людова" павінны стаць польскім укладам у польска-беларускае параходнае таварыства, портам прыпіскі якога стане Гданьск. Такое рашэнне прынята ў час візіту ў гэты буйнейшы партовы цэнтр Польшчы на ўзбярэжжы Балтыкі дэлегацыі на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Станіславам Брылем.

Развіццё транспартных сувязей — найбольш прынцыповае пытанне супрацоўніцтва паміж дзвюма суседнімі дзяржавамі. І ператварэнне польскага Гданьска ў „беларускае акно ў Еўропу", лічаць польскія партнёры, — справа недалёкай будучыні. Як заявіў журналістам намеснік міністра транспарту і суднаходства Польшчы Збігнеў Суляцкі, існуюць магчымасці пераваліваць праз гэты порт ад 5 да 10 мільёнаў тон транзітных грузаў для Беларусі.

У Гдыні каля Гданьска з верасня мінулага года дзейнічае транспартная кампанія, якая займаецца транзітам беларускіх тавараў праз польскія порты.

Як лічаць у Гданьску, у гэтага горада ёсць усе падставы стаць вядучым цэнтрам польска-беларускага супрацоўніцтва. У бліжэйшы час Рэспубліка Беларусь адкрывае ў ім сваё першае консульства на тэрыторыі Польшчы.

*„Звязда" н-р 49 ад 17 сакавіка 1993 г.*



 

## У НАШЫМ КАЛГАСЕ НІ ГРАША Ў ЗАПАСЕ

У Нараўскай гміне 5 калгасаў, найгоршы ў Тыневічах, найлепшы ў Макаўцы. Войт Ян Тапалянскі тры астатнія — у Даратынцы, Васьках і Трасцянцы — адносіць да рангу „сярэдніх".

Старшынёю аднаго з гэтых „сярэдніх" — трасцяніцкага — калгасаў напрыканцы мінулага года стаў Міраслаў Урбановіч, нядаўна яшчэ сябра Галоўнай рады БАСу. „Каб я ведаў тады, што мяне тут чакае, ніколі не рашыўся б на гэты крок — кажа ён пасля двух месяцаў працы на пасадзе кіраўніка. — У мяне былі свае планы наконт аздараўлення прадпрыемства. Думаў, атрымаю нейкія крэдыты, абсеем поле, адмалодзім падстававое стада авечак і як-небудзь дажывем да лепшых часоў. А тут няма ні крэдыту, ні дзе ягняты прадаць. Нават паліва ўжо скончылася, няма на чым ехаць, а што будзе вясною, калі пачнецца праца ў полі?"

Калгас у Трасцянцы размясціўся на паўтары тысячы гектараў зямлі, 350 з якой — ворная, а 500 наступных — лес. Асноўнай прадукцыяй з'яўляецца гадоўля авечак. Сёння ў аборах стаіць больш за 600 матак, якія пачалі каціцца ў студзені-лютым. Якраз на продаж ягнят за мяжу — у Італію, Нямеччыну — ускладваюць надзею калгаснікі з Трасцянкі. За такія экспартныя мясныя ягняты плацяць па 25-28 тысяч злотых за кілаграм (звычайна цэны намнога ніжэйшыя). Але тут бяда, што не ўсё загадзя было аформлена з дазволам на экспарт ягнят, а экспартныя квоты сярод гадоўцаў раздзяляе Варшава. Чакаць з продажам нельга, бо час гэта вораг — чым больш ягня расце, тым яно худзейшае робіцца. І, зразумела, таннейшае.

Рабочыя калгаса гавораць, што гадоўля авечак перастала аплачвацца. Прыводзяць цэлы шэраг цэн для ілюстрацыі свайго меркавання: на мяса, на воўну, на корм, на бензін. Параўноўваюць кошты прадукцыі з вартасцю гатовага прадукту. Але, дадаюць, якая цяпер прадукцыя на вёсцы аплачваецца?

„Я не намерваюся мяняць спецыялізацыю, — кажа Міраслаў Урбановіч, — думаю, што і на авечках можна зарабіць. Каля Гайнаўкі ўзнікла цікавая ініцыятыва — кааператыў гадоўцаў авечак. Арганізатарам яго з'яўляецца гаспадар з Пасечнік Аляксандр Галёнка. Калі з гэтага што выйдзе, скончыцца на рынку манаполія Związku Hodowców Owiec. А для нас, авечкагадоўцаў, чым менш пасрэднікаў па дарозе да кліента, тым лепш. Я б вельмі хацеў, каб з гэтага кааператыва нешта выйшла, можа і мы б да яго падключыліся.

Сённяшняя наша сітуацыя здаецца быць безвыхаднай, але жыццё мяне навучыла, што дрэнны час не можа цягнуцца без канца. Трэба толькі яго перачакаць.

Я аднак не ведаю, ці таго лепшага часу дачакаю на той жа пасадзе. Хутка будзе сход членаў нашага кааператыва, калі я не здабуду да яго ніякіх крэдытаў, трэба, думаю, падаваць у адстаўку. А можа і самі людзі мяне папруць адсюль, хаця раней супрацоўніцтва між намі атрымлівалася надзвычайна. Але ва ўсіх ужо канчаецца цярплівасць — ад лістапада людзі не бачылі зарплаты.

Я думаю, можа і мая віна, што не змог я да гэтай пары дабіцца тых крэдытаў, можа не хапае мне настойлівасці, цвёрдасці ў размовах з чыноўнікамі, з банкамі. Хаця дзень і ноч мазгую, што тут зрабіць з нашым калгасам, не сплю, перастаў усміхацца, можа сапраўды замала раблю, можа іншы на маім месцы быў бы лепшы".

У РСП у Трасцянцы працуе яшчэ 20 чалавек. Калі гэты калгас разваліцца, разыдуцца яны па суседніх вёсках, па хатах. З чаго будуць жыць? У кожнага ёсць гектар-два поля, пераважна нікудышнага пяску — будуць як-небудзь прабівацца з восені да вясны. Можа так яно і сапраўды павінна быць.

„Шкада толькі маёмасці, — кажа Урбановіч, — якая змарнее нашчэнт у імгненне вока. Дзевяць абораў, клуні, сіласы, кармовыя склады, варштат, жылы двухпавярховы дом, усё развaліцца. Да таго яшчэ артэзіянская студня. Цяпер яшчэ з яе можна было б працягнуць вадаправод для цэлае вёскі, але праз гадва, наўрад".



**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**

## СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ ЯНАМ ЧЫКВІНАМ

Аб прыездзе ў Ольштын Яна Чыквіна паведамлялі мясцовыя радыё і прэса. Не было толькі добра вядома, дзе і калі адбудзецца сустрэча з паэтам і таму з'явілася толькі каля дзесяці чалавек. Госця з Беластока прадставіў прысутным рэктар Вышэйшай педагагічнай школы (ВСП) у Ольштыне Анджэй Станішэўскі.

Напачатак паэт расказаў пра сябе, пасля гаварыў пра літаб'яднанне „Белавежа", якое неўзабаве будзе святкаваць 35-годдзе. Пазнаёміў з навейшымі выданнямі „Белавежы" і нарысам „Podróż daremna" Тэрэсы Занеўскай і альманахам „Мае песні табе дару". Абшырна расказаў і пра знакамітых паэтаў Ларысу і Юрку Геніюшаў.

На заканчэнне сустрэчы наша паэтэса і скульптарка Тамара Болдак-Яноўская падзякавала за сустрэчу і падарыла паэту сваю скульптуру з цыкла „Баба ў хустцы".

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

**Szanowna Redakcjo!**

Na początku marca br. byłem z wizytą w Mińsku u swoich krewnych i przy okazji poznałem dyrektorów paru prywatnych spółek działających w Mińsku. Firmy te zajmują się handlem i produkcją różnych towarów przemysłu drzewnego i metalowego i pragną nawiązać współpracę w Polsce. Są one zainteresowane zorganizowaniem polsko-białoruskich i białorusko-polskich spółek joint venture lub innej formy prawnej.

Nie muszę podkreślać korzyści i ogromnych perspektyw dla naszych firm na Białorusi, gdzie obecnie każdy towar odpowiedniej jakości znajduje szybko nabywcę po atrakcyjnych cenach. Również duże korzyści uzyskują firmy prywatne mające t. zw. „ścieżkę" do Polski, a działające na Białorusi.

Korzystając z uprzejmości gazety „Niwa", przekazuję adresy firm zainteresowanych współpracą.

1. „Белпраком" — вытворча-камерцыйнае малое прадпрыемства, дырэктар В. А. Мірзіч, Беларусь, г. Менск 220013, вул. Сугранава 45, корп. 3, тэл. 31-83-97.
2. „Пахикс" — вытворча-камерцыйная фірма, прэзідэнт Уладзімір Міхайлавіч Хініч, Беларусь, г. Менск 220600, вул. Свабоды 23/14, тэл. 27-45-56

Łączę wyrazy szacunku.

**WŁADYSŁAW SZARKOWSKI**
**Białystok**

<u>З запісак шпітальнай „салёвай"</u>

## УСЁ АДДАМ СЯБРАМ

— Вось, я такі ўжо чалавек, што сябрам душу проста аддаў бы! Вядома, пасля выплаты належыцца з імі выпіць крышку, для кампаніі, і закусіць. Калі дадому прыйдзеш, жонка лае: „Калі ты з імі піў, столькі грошай растраціў, то ідзі туды і есці! Апошні кавалак хлеба хочаш дзецям забраць!" Сварымся цалюткі дзень! Я там доўга не гляджу, адчыняю халадзільнік, бяру вяндліну. Дзеці... Што там дзеці! На дзеці...., сябе трэба глядзець, як у народзе кажуць! Вядома, дзеці крыва глядзяць, і гаварыць нават не хочуць. Раз сын старэйшы нават сказаў: „Ідзі ты, п'яніца, да баровага халадзільніка!" Што?! Так да роднага бацькі?! Ну, нягоднік! Хацеў я яму паскам улупіць, ды баба не дала. Кажа, чаго ты да сына ўчапіўся, мае ён рацыю; вось паглядзі на Мішку, усё да хаты валачэ, залатоўкі нават не прап'е! Але, чорт з такім чалавекам! Ён кампаніі не шануе! Я сябрам апошнюю кашулю аддам, хлопцы ведаюць! „Аддавай, стары дурань, чакай ад іх дабра" — крычыць жонка.

Раз мы так папілі, так папілі, што я не мог далезці дадому. Пераначаваў ля бара на тратуары. Схапіла запаленне лёгкіх. Папаў я ў бальніцу. Тыдзень прайшоў, а да мяне ніхто не заглянуў. Сваю сям'ю я разумею.

Ведаў я, чаму не шкадуюць мяне. Але сябры? „Вы адзінокі?" — пыталіся ў мяне хворыя. Устыд прызнацца, што я сямейны, то і сказаў, што ў мяне нікога няма, ні жонкі, ні дзетак. Кажуць, ажаніцца трэба было, то жонка наварыла б, памыла, было б з кім словам перакінуцца, а потым і дзеці пайшлі б; дзеці вядома, клопат, але і радасці шмат...

Месяц я ляжу так у вас, і толькі цяпер жонка да мяне прыйшла. Прасіў я прабачэння. Памірыліся мы. Піць не буду. Што там, такія сябры! Сям'я самая важная! Ёсць да каго вярнуцца.

**АЎРОРА**

<u>З нашай гісторыі</u>

## ДАЗВОЛ НА ШЛЮБ

Прыгоннае права, адмененае ў 1861 г., ва ўмовах агульнага крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы дазваляла памешчыкам распараджацца асабістым жыццём падлеглых ім сялян. Калі, напрыклад, нехта з іх захацеў ажаніцца ці выйсці замуж, мусіў атрымаць дазвол у свайго пана.

Чаму я якраз гэтую тэму ўздымаю на старонках „Нівы"? А таму, што натрапіў на арыгінальны дакумент з 1852 г., які адлюстроўвае згаданую залежнасць. Выратаваў дакумент ад знішчэння, у сямідзесятых гадах, псаломшчык з Белавежы Пётр Дваракоўскі (зараз ён ужо на пенсіі), які ў той час служыў яшчэ ў Боцькаўскім прыходзе, якому падначальвалася таксама царква ў Андрыянках. Дакумент (пасведчанне) выдаў менавіта андрыянкаўскі памешчык Ян Гарткевіч. Ніжэй прыводжу яго змест (у правапісе арыгіналу):

**ŚWIADECTWO**

Niżej podpisany Dziedzic Majątku Andryanek wydaje niniejsze świadectwo, iż ze strony mojej niema przeszkody na zawarcie związku małżeńskiego włościanina Selewecha po Kondracie Chomiuku należącego do tychże Andryanek z Nastuchą po Semenie Tarasiuku, włościanam z tychże Andryanek. Wdowód czego podpisem własnoręcznym i wyciskiem pieczęci herbu mojego stwierdzam. Andryanki Dnia 12. Kwietnia 1852 roku.

**Jan Gartkiewicz**

Пасведчанне гэтае напісана чарнілам на чыстай паперы. Праўда, яно ўжо крыху выбляклa, але яшчэ даецца прачытаць без больших цяжкасцей. Што цікава, захаваўся дагэтуль арыгінальны адбітак у сургучы герба андрыянкаўскага памешчыка. Гэта інфармацыя павінна зацікавіць перш за ўсё тых, хто займаецца мясцовай геральдыкай.

Мяне ў сваю чаргу цікавіць, ці жывуць яшчэ нашчадкі названых у пасведчанні Селевеха Хамюка і Настухі Тарасюкі? Бо хіба гэтая шлюбная пара дачакалася сваіх дзяцей?

У дэмаграфічнай частцы сваёй „Бібліяграфіі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне" а. Рыгор Сасна падае, што ў Андрыянкаўскай царкве ў 1852 г. звянчалася 6 пар. У тым жа самым годзе было 28 хрышчэнняў. Трэба спадзявацца, што першароднае дзіця сужонства Хамюкоў паявілася ў наступным годзе. У ім таксама адбылося 28 хрышчэнняў.

**ПЁТР БАЙКО**

## ВОДНАЯ СУПОЛКА

Гмінная водная суполка ў Нарве мае сваю сядзібу на першым паверсе будынка Гміннай управы. На другім паверсе знаходзіцца аддзел фінансаў, але працаўнікам суполкі цяжка туды зайсці, каб аднавіць спісак сялян, якія павінны плаціць складчыну; не малую, бо 70 тыс. зл. ад гектара, як устанавіў з'езд гміннай воднай суполкі.

Сказалі мне ў Нарве, што за гэтыя грошы можна расчысціць толькі 60 % меліярацыйных равоў. Відаць і таму выпісваюць наказы заплаты ні на што не гледзячы. Я ўжо тры гады не маю гаспадаркі, а найбліжэйшы дрэнаж ад мае зямлі знаходзіцца ў адлегласці 1500 метраў, але заўсёды патрабуюць плаціць. Раённы аддзел геадэзіі ў Гайнаўцы ў другім паўгоддзі мінулага года прыслаў у гміну папаўку аб перанясенні зямлі Мікалая Жамойды з вёскі Бялкі ў вёску Вострaў, што ў гміне Крынкі, але суполка надалей дапамінаецца, каб ён плаціў, хаця з сенажацяў у вёсцы Бялкі ўжо не карыстае. Відаць, цяжка ўраднікам суполкі падняцца вышэй на адзін паверх, каб аднавіць спісак сялян і не псаваць ім і так ужо выматаных нерваў.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

## КОЛЬКІ КАШТАВАЛА...

...перайменаванне адной толькі Алеі 1-га Мая на Алею Ю. Пілсудскага? З гэтым пытаннем звяртаюся я да ўлад горада Беластока. Трэба ж было памяняць усе дошкі з назвай вуліцы, кожнае прадпрыемства вымушана было памяняць пячаткі. Жыхары вуліцы абавязаны былі пайсці ў бюро і змяніць у дакументах месца свайго пражывання з блока н-р 5 кв. 8 на блок н-р 5 кв. 8, толькі назву вуліцы трэба было памяняць, бо старая ж камуністычная.

Цяпер змены назваў вуліц перасталі быць моднымі і дзяржаўныя ўлады занялися падзелам краіны на новыя ваяводствы і тварэннем паветаў, каб яшчэ пабольшыць і так вялікую бюракратыю. Здаецца мне, што калі ў бюджэце такі вялікі дэфіцыт і штомесяц пагоршваюцца ўмовы жыцця насельніцтва, не трэба думаць аб новым адміністрацыйным падзеле краіны, а заняцца ў першую чаргу беспрацоўнымі і папраўкай жыццёвых варункаў!

**М. ЛУК'ЯНЮК**

# НАД БУГОМ І НАРВОЮ



Ніва

*З ДРУКУ*

## POGRANICZE NIE JEST NIESZCZĘŚCIEM

**Прапануем чытачам "Нівы" фрагмент інтэрв'ю Сакрата Яновіча, змешчанага ў "Magazynie Literackim", у якім беларускі пісьменнік прадстаўляе свае меркаванні на тэму культурна-нацыянальнай сітуацыі на Беласточчыне ў найбліжэйшай будучыні.**

Przewiduję tutaj, w Białostockiem, coś w rodzaju efektu sprężyny - tzn. polonizowanie się elementu białoruskiego posunie się tak dalece, iż ta białoruskość, identyfikująca się z mową, zostanie ścieśniona do skali ludności najbardziej kulturalnej, inteligentnej. Żywioł chłopski i plebejski rozpłynie się w polszczyźnie momentalnie, sprężynę zaś można, jak wiemy, ścisnąć nie krócej jak do pewnej długości - mniejszość białoruska pozostanie zatem na arenie dziejowej, ale w ograniczonej skali społecznej wobec swego pierwotnego areału etnicznego i potencjału demograficznego. Znaczy to, że stanie się mniejszością aż przesadnie inteligencką. Dalej nieasymilowalną.

Co do granicy językowej - tu jej nie ma, polsko-ukraińskiej czy białorusko-ukraińskiej. Ukraińskość, jakie się tutaj wytworzyło, jest czymś marginalnym, ponadto sztucznie wywołanym. Bazuje na żywiole poleskim, czyli na typowej sytuacji pogranicza językowego. W dialekcie poleskim bowiem są elementy, owszem, i ukraińskie. I jeśli już ktoś na upartego chce, to może na własne ryzyko twierdzić, że jest to dialekt mimo wszystko ukraiński. To jest rubież zasięgu zachodniego Polesia wzdłuż górnej Narwi. I tyle.

Przyglądam się spokojnie temu niby ruchowi, dość ekscentrycznej inicjatywie kilku młodych i podstarzałych inteligentów. To jest próba walki o co? O dusze?? Ja tego bardzo nie lubię. Niech się pobawią w Ukrainę między Polską a Białorusią... Jakiś element tej świadomości z pewnością w środowisku zostanie, ot groszek na deser. Proszę Pana - kończąc tę niepoważną i dziwną kwestię - przecież wieś znika dokumentnie, tzn. etnika. Rolnik, który robi na 10 ha, to nie jest rolnik, a raczej bezrobotny z zajęciem; gospodarstwo opłaca się przy 50-100 ha, a takich prawie nie ma u nas. Wieś - owa postfeudalna struktura - zamiera, rozwija się miasto z miasteczkiem, pęcznieje Hajnówka, Bielsk Podlaski, a nie Wólka. A to znaczy - że nawet ci Ukraińcy też się znajdą w sytuacji topniejącej diaspory. Bo na miejscu tych średniowiecznych wsi-ulicówek, które tam jeszcze dogorywają z kaszlącymi rencistami, pozostaną z rzadka gospodarstwa typu farmerskiego. Śmierć tradycyjnej wsi pogodzi nas wcale prędko. Już mówiłem: asymiluje nie język, lecz brzuch.

*- Dziękuję bardzo za rozmowę.*

**Rozmawiał: Tomasz Szczepański**

*"Magazyn Literacki" nr 1/5/1993*

## ІРЛАНДЫЯ, ІРЛАНДЫЯ...

Калі некалькі гадоў таму назад даведаўся я ад рэдактара Яна Максімюка, што ён узяўся за тытанічную працу, а менавіта за пераклад „Уліса" на беларускую мову, не выклікала гэта ў мяне ніякага здзіўлення. „Уліс" ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса (1882—1941), званага многімі літаратуразнаўцамі „Гамерам XX стагоддзя", чытаецца таксама як і раман пра Беларусь. Нягледзячы на значную адлегласць дзяржаў (2000 кіламетраў), розніцы ў менталітэце насельніцтва ці ў сучаснай рэлігійнай абстаноўцы, няма бадай у Еўропе другога такога народа як ірландскі, які б у сваёй гісторыі дасведчыў лёсу так вельмі падобнага сваім драматызмам да лёсу беларусаў. Менавіта гэтае падабенства даўно спарадзіла тую думку, каб напісаць пра Ірландыю.

У XX стагоддзі Ірландыя выразна апярэджвае Беларусь. Можа таму, што мае толькі аднаго моцнага суседа. Хочацца аднак мець перакананасць, што ў многіх сферах жыцця, а асабліва ў адраджэнні дзяржаўнай мовы суверэнная Рэспубліка Беларусь усё ж такі пойдзе значна далей за краіну на востраве.

Большая частка тэрыторыі Ірландыі занята Цэнтральнай раўнінай, укрытай ледавіковымі адкладамі. Тут шматлікія возеры, багны, тарфянікі і месцы парослыя верасам. Па ўскраінах — невысокія горы. Лагодны і вільготны клімат увесь год спрыяе вегетацыі сочных траў на лугах і пашах. Ад гэтага своеасаблівага краявіду ўзяліся назвы „Зялёны востраў" і „Смарагдавы востраў".

Самыя старыя, адкрытыя археолагамі сляды людской цывілізацыі ў Ірландыі — гэта знаходкі 6-тысячнай даўніны. Хрысціянства прыбыло сюды ў V стагоддзі, першыя помнікі ірландскай літаратуры паходзяць з XVI ст., а найстарэйшыя гарады — Дублін, Корк, Лімерык, Уотэрфард — гэта даўнія крэпасці, заснаваныя вікінгамі больш за тысячу гадоў таму назад.

Датай, якую абавязанае ведаць кожнае ірландскае дзіця, з'яўляецца 1171 год, калі на чале сваіх войск прыбыў на востраў Генрых II, кароль Англіі. Наступных восем стагоддзяў — гэта перыяд бесперапыннага англійскага панавання, вельмі доўгі час нацыянальнага ўціску, чужога дамінавання і ўніжэнняў. Карэннае насельніцтва заганялася тады з зямлі. Сяліліся шатландскія і англійскія пратэстанты. На падставе прыналежнасці да каталіцкага веравызнання ірландцаў пазбавілі палітычных і грамадзянскіх правоў.

Адказам народа на каланізатарскую палітыку былі шматлікія ўзброеныя паўстанні. Гэтыя незалежніцкія ўздымы дайшлі да апагея зараз пасля I сусветнай вайны, набыўшы значэнне грамадзянскай вайны, якая закончылася ў 1921 годзе. Імкненні ірландцаў споўніліся часткова: праўду кажучы, ад Ірландыі адлучылі яе англіцызаваную немалую паўночную частку, але на астатняй тэрыторыі паўстала „вольная дзяржава на правах дамініёна", звязаная з Вялікабрытаніяй асобай панўючага. У 1937 годзе Ірландыя дабілася суверэнітэту, а ў 1949 годзе фармальна выйшла з Брытанскай імперыі. Падзел краіны, накінуты ў 1921 годзе, надалей застаецца самай важнай і ўвесь час нявырашанай ірландскай палітычнай праблемай. Паўночная Ірландыя (гістарычная назва — Ольстэр) паўсюдна ў свеце вядомая з унутраных сутычак рэлігійнага характару. Большасць жыхароў гэтай часткі „Зялёнага вострава" складаюць пратэстанты, метадысты і вернікі англіканскага касцёла. Меншасцю з'яўляецца карэннае каталіцкае насельніцтва ірландскага паходжання (35 % агульнага ліку жыхароў). Сучаснае палажэнне аб выбарах надалей не запэўнівае ірландскай нацыянальнай меншасці ўдзелу ні ў самаўрадавых уладах, ні ў палітычна-грамадскім жыцці.

У гаспадарцы Ірландыі дамінуе земляробства і жывёлагадоўля. У галіне замежнага гандлю рэспубліка поўнасцю залежная ад Вялікабрытаніі. Змагаецца яна з сур'ёзнымі эканамічнымі цяжкасцямі. Слабейшая чым у іншых краінах Заходняй Еўропы прамысловасць — гэта перш-наперш след доўгай палітычнай залежнасці ад Вялікабрытаніі, якая свядома тармазіла індустрыялізацыю ў падпарадкаванай ёй суседняй краіне. Усё-такі 1 студзеня 1973 года Ірландыя ўвайшла ў Еўрапейскую эканамічную садружнасць (EWG).

Рэспубліка Ірландыя налічвае 3,5 мільёна жыхароў. Дзвесце гадоў назад у гэтых самых межах насельніцтва было ўдвая больш, чым сёння. Змяншэнне гэтага ліку наступіла ў другой палове XIX стагоддзя, як вынік эміграцыі, выкліканай перш за ўсё беднасцю і голадам, а таксама рэлігійным і палітычным прыгнётам. У гадах 1851—1946 з Ірландыі эмігрывавала 3,9 мільёна людзей. Ірландыя да сённяшняга дня з'яўляецца адной з нешматлікіх дзяржаў на свеце, дзе больш за сто гадоў утрымоўваецца дэмаграфічны застой. Перш за ўсё па прычынах беспрацоўя, не спыняецца эміграцыя ірландцаў за акіян.

Сучасная Ірландыя мае дзве сучасныя мовы: ірландскую і англійскую. Ірландскай мовай кельцкага паходжання, прынятай законам як першай, карыстаецца не больш за 50 тысяч грамадзян, пераважна заходніх ускраін „Зялёнага вострава".

Калісьці было інакш. Яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя вялізная большасць ірландцаў гаварыла на роднай мове. Але сістэматычнае выкараненне мовы вялікабрытанскімі каланізатарамі зрабіла сваё. Сёння англійская мова на востраве пануе непадзельна, а літаратурныя ірландскія творы патанаюць у моры ангельшчыны, на якой, зрэшты, пісалі самыя выдатныя творцы — Джэймс Джойс, Сэмюэль Бэкет, Оскар Уайлд, Джордж Бернард Шоў, Рычард Марфі, Джордж Расел і многія іншыя.

Урад рэспублікі робіць усё, што толькі магчымае, каб захаваць ад забыцця застаўшыеся астраўкі айчыннай мовы. Назвы гарадоў (сталічны Дублін па-ірландску называецца Baile Atha Cliath), вуліц, установ усюды двухмоўныя. У школе навучанне ірландскай мовы ёсць абавязковае. Але выпускнікі, якія навучыліся з немалымі цяжкасцямі падстаў гэтай мовы, хутка яе забываюць, а адзіны кантакт з моваю гэта нешматлікія кніжкі, усяго некалькі газет і часопісаў ды апошні вячэрні выпуск паведамленняў на тэлебачанні. Арыгінальная мова захавалася яшчэ ў ірландскім нацыянальным гімне.

У адрозненні ад карэннай мовы, з сапраўднай гордасцю культывуецца старыя звычаі, традыцыі, абрады, якія маюць многія сувязі з ірландскім каталіцызмам (больш за 95 працэнтаў жыхароў рэспублікі — гэта католікі), а таксама калі-некалі сваім радаслоўем, сягаючым адлеглага часу кельцкай культуры. Ахоўвай багатай нацыянальнай спадчыны займаецца ўрадавы Дэпартамент Ірландскага фальклору з сядзібай у гмаху Дублінскага ўніверсітэта.

**ЮРКА БАЕНА**




**ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

На заканчэнне Вялікага Посту, тыдзень перад Вялікаднем адзначаецца свята Уваходу Гасподняга ў Іерусалім або "Вербную Нядзелю". Падчас вячэрняй багаслужбы ў суботу вернікі прыходзяць у храмы з упрыгожанымі веткамі. На Усходзе - гэта веткі пальмаў, лаўра і вясеннія кветкі, а ў нас, толькі што зазелянелыя веткі вярбы - прадвесніцы надыходу вясны. Ад звычаю асвячэння ў гэты дзень вербаў Свята і называецца "Вербніцай". Асвячонай вярбе, асабліва ў сялянскім быце, заўсёды надавалася вялікае значэнне. Ёю выганялі на першы выпас жывёлу; іх прысутнасць у хаце, тым больш калі з'есці некалькі пупышак, ахоўвала ад розных хваробаў. Аздобленыя каляровымі засушанымі кветкамі, травамі, каласкамі або мохам вербы, як гэта было ў "віленскіх пальмах", імітавалі пальмы, якімі народ сустракаў Хрыста падчас уезду ў Іерусалім. "Віленскімі" пальмамі ўпрыгожваліся дамы, а таксама клалі іх на магілы блізкіх. Паводле народных назіранняў, менавіта ў гэты час, на Вербніцу і ў перадвелікодным тыдні неабходныя былі прымаразкі - вербічы, каб не было пазнейшых маразоў, шкодных для сяўбы і ўсходаў яравай збажыны.

Усё вышэй сказанае - толькі абрадавая абалонка, аднак Гасподні Уезд у Іерусалім - гістарычная падзея з глыбокім духоўным сэнсам. Некалькі дзён перад сваімі пакутамі і смерцю Хрыстос адбыў урачысты ўезд у Іерусалім. Ён уехаў як цар, які прыносіць прымірэнне. Хаця заўсёды ўтойваў ён Сваю боскую веліч - цяпер ахвотна прымаў знакі пашаны ад народу. "Асанна Сыну Давідаваму! Дабраслоўлены, які прыходзіць у Імя Гасподняе" - раздаваліся воклічы людзей. Натоўп быў перакананы, што надышоў час вызвалення, што будуць выгнаныя рымскія акупанты і ўсталюецца народная ўлада. Людзі рассцілалі на дарозе кілімы з вопратак і пальмавых ветак...

Аднак не такая была сапраўдная мэта ўрачыстага ўваходу ў Іерусалім. Тады, калі ў горадзе збіраліся людзі, каб святкаваць Пасху, Ён публічна пажадаў выступіць у ролі Адкупіцеля, звярнуць увагу на ахвяру, якая мела ўвянчаць Ягоную місію. Перад тым, як народ меў традыцыйна есці пасхальны агнец, Ён, Агнец Божы, добраахвотна прыносіў з сябе ахвяру. Трэба было, каб увага людзей накіравалася на Яго і сканцэнтравалася на Ягонай ахвяры. Акружаны народам, але адзінокі, Ён набліжаўся не да трона, а да Крыжа..

Хрыстос праявіў сябе Царом перад Сваёй добраахвотнай смерцю. Без гэтага не адкрылася б у свеце паўната богаўвасаблення. Царская годнасць заўсёды утойваная ў Настаўніку, які "не меў дзе галавы схіліць", павінна была выявіцца на зямлі дзеля пасведчання праўды. Яно патрэбнае было таксама вучням каб, як спяваецца ў адным з трапароў: "Калі Хрыста ўбачаць крыжаванага - зразумеюць добраахвотнасць мукаў". Дзеля гэтага і дзеля пасведчання праўды, адбыўся ўрачысты ўваход Хрыста як Нябеснага цара ў Іерусалім.

Пацвярджэннем царскай ўлады Хрыста над светам былі і ёсць Ягоныя цуды. Ён у цудоўны спосаб быў зачаты. Незвычайнае было Яго нараджэнне, цудоўным - з'яўленне анёлаў пастухам і зоркі тром царам. Сам Хрыстос, паўсюднасць і трываласць веры ў Яго з'яўляюцца найбольшым цудам. Ягоная цудадзейная моц увесь час выяўляецца ў свеце, хаця людзі тлумачаць яе па-рознаму... Бо ці ж не праяўленне той жа Хрыстовай ўлады над светам незлічоныя, рацыянальна невытлумачаныя выпадкі, выратаванні, аздараўленні, апамятанні?.. Цудам з'яўляецца гісторыя Царквы, праследаванай, дзеленай і раздзіранай, якую аднак ніякія сілы не перамаглі. Дагэтуль не спыняецца ейны навучальны, выхаваўчы і асвячальны ўплыў і гэтага ўплыву нішто не здолела замяніць. Праз Царкву Хрыстос прамаўляе да нас, як некалі да іерусалімлян падчас свайго слаўнага Уезду: "О, каб вы хоць у гэты дзень зразумелі, што дзеля міру вашага" (Лк. 19,42), што служыць вашаму сапраўднаму дабру. Ён нябачна кіруе намі і вядзе па завілістых дарогах жыцця. Ён рупіцца пра наш лёс, Ён пануе над ім і ахоўвае нас. Ён сапраўдны і адзіны наш цар, якога належыць у жыцці прывітаць і запрасіць, як некалі прывітаў Яго народ у Іерусаліме...

Вербная Нядзеля - уступ да Вялікага Тыдня. Перад вернікамі зноў разыграецца апагей збавіцельнай місіі. Пажадана, каб перажыць гэтыя дні ў настрoі павагі і сцішэння. Хай будуць гэта дні паглыбленага роздуму і ўнутранага саўдзельніцтва ў Хрыстовых Пакутах, каб перажыўшы смутак паўней перажыць радасць Уваскрэсення.

**ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА**

Вялікая Пятніца... Для ўсіх хрысціян - гэта выключны дзень. Яшчэ напярэдадні, у Вялікі Чацвер, вернікі прасачылі падчас чытання 12-ці Евангелляў пакуты і смерць Хрыстову, а ў Пятніцу збіраюцца ля Ягонай сімвалічнай труны, ля плашчаніцы. Неба і зямля прыпадаюць да памёршага Збавіцеля. У гэтай урачыстай цішыні, задуменным маўчанні, светлай журботнасці, сузірае, плача ды моліцца і наша бедная душа. Людзі аднойчы забілі Бога, што прыйшоў да іх і надалей Яго забіваюць. Чуллівую, неакамянелую душу пранікнуць павінна ў Вялікую Пятніцу пачуццё віны за нявер'е, за падзенні, за богаадрачэнні...

"Хай маўчыць усякае цела чалавечае і хай стаіць з бояззю і дрыжаннем", - заклікае Царква. Неўяўляльная ступень любові дасягнула сваю мяжу: Хрыстос спачыў нежывы. Ён прыйшоў збавіць сваё тварэнне, вярнуць да жыцця ўпаўшае, паміраючае зерне. Людзі страцілі сувязь з Богам, блукаліся ў духоўнай цемры і памножвалі Адамаў грэх. Бог бачыў бездапаможнасць чалавека. Праз стагоддзі Старога Запавету струменнямі лілася кроў ахвярных звяроў правобразна прадказваючы Хрыстовую Кроў. Аднойчы Ён прызямілўся, каб абвясціць, што Бог любіць нас і руліцца пра нас. Ён апавясціў божую ласку, міласэр-насць і спагаду. Прыйшоў да сваіх, аднак свае не прынялі Яго. Сваімі рукамі нарыхтавалі Яму смерць тыя, якіх узлюбіў... Цень смерці спадарожнічаў Хрысту праз усе гады зямнога жыцця. Ад нараджэння па ўкрыжаванне Яго акружала нянавісць, незразуменне і варожасць маладушных і жорсткіх людзей, якія не "ведалі, што робяць". Прыбліжаўся да Крыжа з годнасцю і вернасцю Айцу Нябеснаму. Легіёны анёлаў маглі ў любы час абараніць Яго, але Ён застаўся безабаронны, не супрацьставіўся смерці. Як прадказала прароцтва - "бы авечка паведзены быў на зарэз і бы нявіннае ягня маўклівае перад стрыгучымі, так Ён не адчыніў вуснаў сваіх" (Іс. 53, 7). АЙЦЕЦ паслаў і СЫН пайшоў! Перад гэтай тайнай бяссільным становіцца чалавечы розум... яна даступная толькі веры.

Хрыстос дасягнуў мэту свайго пасланніцтва. Ягоны скон і кроў замацавалі і пацвердзілі словы: "Я праславіў Цябе, Ойча на зямлі... справу, якую Ты даручыў мне - выканаў... Явіў Імя Тваё людзям. Цяпер Ты, Ойча, праславі мяне славаю, якую я меў у Цябе да стварэння свету".

Вось перад гэтай тайнай стаім мы ў Вялікую Пятніцу. У гэты дзень маўчання і роздуму ўсвядомім сабе свой доўг перад Богам: за ахвяру выкуплення, за цялеснае і духоўнае жыццё, за ўсё ўчыненае намі зло і занядбанае дабро. Хрыстос у труне - дакор нашаму сумленню. Хай замоўкнуць ля плашчаніцы нашы надзённыя клопаты, нараканне нашых мітуслівых сэрцаў. Неймаверна вялікай цаною, побач якой мы часта гэтак абыякава праходзім - нам ахвяроўваецца сёння ГАЛОЎНАЕ ў жыцці.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# УВАХОД ГОСПАДА Ў ІЕРУСАЛІМ

Свята гэтае папярэджвае Лазарава Субота, калі Хрыстос уваскрэсіў брата Марфы і Марыі. Гэтая падзея была яшчэ адным доказам сілы Ісуса, а таксама таго, што магчымае ёсць паўсюднае ўваскрашэнне.

Уваскрашэнне Лазара пераканала шмат людзей да веры ў Збавіцеля, а з другога боку яшчэ больш абурыла фарысеяў і архіпастыраў. Рашыліся яны судзіць Хрыста, а пасля паслаць Яго на смерць.

Калі Збавіцель прыбыў у Віфанію Лазар ад некалькіх дзён быў ужо ў магіле. У доме Марфы і Марыі панаваў смутак і жаль пасля смерці брата, які заступаў ім бацькоў. Патрацілі яны ўжо надзею, што прыйдзе Хрыстос і адменіць іх сітуацыю. Ісус, стоячы над магілай Лазара сказаў: „Лазар выйдзі..." (Ян 11, 39-45). І сталася нешта нечаканае, чаго чалавечым розумам нельга зразумець — прабываючы ўжо чатыры дні ў магіле Лазар устаў і падышоў да сваіх блізкіх.

Вестка пра тое, што здарылася ў Віфаніі хутка дайшла ў Іерусалім, куды Хрыстос падаўся наступнага дня пасля уваскрашэння Лазара. У гэтым часе ў Святым горадзе было мноства народу, які сышоўся туды на Пасху. Людзі ведалі, што да горада набліжаецца прарок. Яго ўезд на асліцы так прадстаўляе евангеліст Мацвей (21, 8-9):

„Множства ж народу паслалі свае адзежыны на дарозе, а другія рэзалі галіны з дрэваў і пасцілалі на дарозе. А народ наперадзе і за ім ідучы клікаў: Асанна сыну Давідаваму! Багаслаўлен ідучы ў імя Гасподняе! Асанна ў вышніх!"

„Асанна" абазначае збаўленне, і з'яўляецца евангельскім доказам для ўскіх яўрэяў, што Хрыстос ёсць тым чаканым Месіяй, які прыйшоў на зямлю, каб чалавека збавіць ад зла. Да гэтай пары Ісус ніколі не называў сябе Месіяй і забараняў так называць сваім вучням. Уваход Хрыста ў Іерусалім адбыўся 10 сакавіка, калі ў кожнай яўрэйскай сям'і выбіралі пасхальнае ягня і елі яго падчас вячэры на памяць выхаду з егіпецкай няволі. Хрыстос знайшоўся сярод народу як ахвяра прадбачаная на смерць. Апошнія дні былі Ім, як і Яго ворагамі, праведзеныя на падрыхтоўцы да смерці.

Уваход Хрыста ў Іерусалім святкуецца з III стагоддзя новай эпохі. Як рухомае свята залежыць Яно ад Пасхі. Святкуем яго ў апошнюю нядзелю перад Уваскрашэннем.

**С. Н.**



# Czasopis

**У КРАСАВІКУ**

**Мікола Сахарэвіч** прыводзіць успаміны сп. Антона Кярковіча, беларуса з Мельніка, які свае маладыя гады правёў у Аргенціне.

**Юрась Сцяпанаў** з Біцебска апісвае незвычайную з'яву ў сённяшняй Беларусі — „дылінгвізм", што некаторыя сілы хочуць зрабіць законам для жыхароў рэспублікі.

**Антон Мірановіч** успамінае забытую або фальшаваную сёння „прыяцелямі беларусаў і праваслаўя" ў Беластоку, гісторыю Благавешчанскага манастыра ў Супраслі.

Друкуецца таксама ліст ананімнага аўтара, які прыводзіць новыя факты адносна існавання ў Беластоку канцэнтрацыйнага лагера для „балахоўцаў" і беларускага актыву Гродзеншчыны.

Апрача названага: палемічныя артыкулы, шмат інфармацыі, пастаянныя рубрыкі, крыжаванкі.

**Ю.К.**

## DO TRZECH RAZY SZTUKA!

Беларуская школа ў мястэчку Крынкі была тры разы: у гадах 1916-20, 1939-41, 1944-45. Чацверты раз напэўна не будзе ж па той прычыне, што працэс паланізацыі местачкоўцаў - практычна - закончаны. Рэшткі беларускай мовы выносяць на могілкі разам з пакаленнем дзядоў цяперашніх унукаў.

Беларускамоўе пануе ў навакольных вёсках, але там няма дзяцей, ані тым болей унукаў. Гэта значыць, што і саму Крыншчыну чакае тая ж магіла.

Гледзячы на пададзеныя даты, няцяжка здагадацца, што пакрываюцца яны са спробамі прыходу сюды беларускай дзяржаўнасці.

Калі Народная Польшча рушыла ся аднавіць беларускае школьніцтва на Беласточчыне, у сярэдзіне пяцідзесятых гадоў устаноўлена ўрокі беларускай мовы для праваслаўнага вучнёўства ў тутэйшай польскай школе. І хоць вяла іх вельмі каханая ўсімі настаўніца Анна Яроцкая, аднаго году бацькі дружна збунтаваліся супроць сваёй роднай мовы і паставілі фінальны крыж патрыятычнаму выхаванню кроўных дзетак. Ад таго моманту ўсянюткія крынчане - і касцельныя і царкоўныя - катэгарычна запатрабавалі лічыць іх палякамі. Воля люду - гэта воля Бога як быццам... Так і сталася!

Днямі атрымаў я з літоўскай Вільні непрадчуваны мною дакумент, які пралівае святло на беларускія перыпетыі Крынак. Здарылася гэта дзякуючы ласкавай увазе да маёй асобы з боку Язэпа Янушкевіча, патомнага местачкоўца з Ракава, што каля Менску. Ён гісторык, усё капаецца ў архівах.

Дакументам гэтым ёсць верагодная копія пратакола сходу крынкаўчан, які адбыўся 14 верасня 1919 г. наконт далейшага ўтрымання мясцовай беларускай школы, утворанай тры гады назад, у чэрвені 1916 г. Пратакол падпісала каля сарака чалавек - з такіх вядомых родаў, як: Анісімовічы, Сахаркевічы, Яновічы, Кішкелі, Шыгаловічы, Мічэйкі, Казлоўскія, Клімовічы. А разам з імі - Курчук, Сямёнаў, Цітка, Харужы, Васілеўскі, Шалешка, Гуцайт, Шуста, Чабан, Валошын, Пратасевіч, Носка, Уладыка, Сяпешка. Сярод іх аказалася некалькі непісьменных, м. ін. мой дзед Павал Яновіч, беларускую волю якога пасведчыў сваім подпісам Стэфан Шыгаловіч. І сапраўды: мой бацька, Кастусь, успамінаў, як хадзіў у тую школу (яе будынак стаіць, у ім - дзіцячы садзік цяпер). У дваццатым - уступілі легіёны і ўсяму паклалі канец.

Подпісы тыя - гэта подпісы дзядоў, унукі якіх у сваёй, амаль стопрацэнтнай, большасці адракліся ад духоўнай спадчыны, пагадаваліся здраднымі неафітамі. А прамінула ўсяго тры пакаленні ў наш шалёны век, каб і следу не засталося ад бацькаўшчыны, якая трымалася там, у Крынках, ад паўтысячы і больш гадоў! Вось мерка новага часу.

Што яшчэ звяртае ўвагу ў подпісах, імёнах і прозвішчах? Менавіта тое, што не бачу сярод іх крынкаўчан рымска-каталіцкага веравызнання. Ужо тады быў закладзены фундамент пад нашу сённяшнюю - не дапусці Божа! - нейкую Боснію і Герцагавіну, у якой не мова падзяляе, бо яна ў іх усіх адна, але рэлігія якраз!!

Урэшце і такая рэфлексія: адначасна з адступленнем беларушчыны адступае і праваслаўе, якое пераважала даўней у Крынках, а цяпер курчыцца да дваццаці пару працэнтаў. У царкве рэдка пачуеш пра шлюб, а ўсё толькі хаваюць і хаваюць...

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## БЕЛАРУСЬ ПАД АКУПАЦЫЯЙ

Кніжка Юры Туронка „Беларусь пад нямецкай акупацыяй" выдадзеная ў 1989 годзе выклікала не толькі вялікае зацікаўленне і дыскусію, але таксама паказала колькі вартыя былі савецкія навуковыя апрацоўкі на тэму апошняй вайны. Туронак, карыстаючыся нямецкімі, польскімі і савецкімі крыніцамі, паказаў палітычную рэчаіснасць на тэрыторыі акупаванай немцамі Беларусі. Найбольш вартаснае ў кніжцы гэта тое, што аўтар не прабаваў нікога апраўдаць, ні бараніць ніякай ідэі. Пад уплывам сацыялістычнай літаратуры, фільмаў і гістарыяграфіі стварыўся ў грамадскай свядомасці вобраз акупацыі, дзе з аднаго боку выступалі пазбаўленыя ўсялякага сумлення і маральнасці пачвары — немцы, а з другога справядлівыя, адважныя і ваюючыя за слушную справу савецкія партызаны. Туронак паказаў гэта неяк інакш і адкрыў яшчэ два іншыя бакі змагаючыяся за ўплывы на Беларусі — беларускі нацыянальны рух і польскае падполле. Рэчаіснасць прадстаўленая ў ягонай кніжцы перастае быць чорна-белай. Тое, што ашаламляе мала зарыентаванага ў гісторыі чытача гэта доказы аўтара на існаванне такіх фактаў як: стварэнне немцамі ўмоваў для развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці, супольная барацьба польскага і савецкага падполля з беларускімі палітычнымі, асветніцкімі, рэлігійнымі і культурнымі установамі, беларуска-польскае змаганне за ўплывы ў адміністрацыі і паліцыі, нямецка-акоўскія пагадненні пры канцы акупацыйнага перыяду.

Аўтар паказаў палітыку ўсіх існуючых сіл на тэрыторыі Беларусі. Не было ў гэтай палітыцы месца на ніякую маральнасць, важныя былі толькі мэты. Вядома, цану за ўсё плаціў беларускі народ сотнямі тысяч ахвяраў, найчасцей зусім невінаватых людзей.

Першае выданне кніжкі Туронка з 1989 г. вельмі хутка разышлося на польскім рынку. З увагі на вялікае зацікаўленне гэтай кніжкай, выдавецтва „Książka i Wiedza" рашыла выдаць яе павялічаным тыражом і неўзабаве будзе яна ў кнігарнях на тэрыторыі цэлай Польшчы.

**Я. М.**

## НЕ ТОЛЬКІ ЎРОКІ

Апошнім часам наведаў я Падставовую школу ў Аўгустове (Ягуштове) каля Бельска-Падляшскага. Вучыцца ў ёй каля паўтары сотні дзяцей, між іншым з Парцава, Галадоў, Агароднікаў, Грыневічаў-Вялікіх, Катлоў, Белай, Суботкі, Стрыкаў і Аўгустова. Давозяць іх на школьным аўтобусе. Ад 1985 года школай кіруе дырэктар Валянцін Гліва.

Ад пяці гадоў у школе дзейнічае сталовая. З абедаў карыстае 130 чалавек. Пра харчаванне школьнікаў і ўсяго персаналу клапоціцца Яніна Навіцкая, Галена Антковіч, Аліна Анацік і Валянціна Сушч. Бясплатныя абеды атрымлівае сем вучняў. Аплачваюць іх са сродкаў т. зв. грамадскай апекі ў гміне. Пры сталовай ёсць святліца, у якой заняткі вядуць Валянціна Сушч і Барбара Васілеўская.

Пазаўрокавыя заняткі з гарцэрамі і зухамі цікава вядуць Леаніда Рудэчка і Міраслаў Вакулеўскі. Будуць гэта: і спартыўныя заняткі (лёгкая атлетыка, ручны мяч, настольны тэніс), і конкурс гарцэрскай песні, і дэкламатарскі конкурс "Страфы Айчыне". Зухі здабылі кубак камендаванта атрада (гуфца) ЗГП за ўдзел у Зухавым мнагабор'і спраўных у 1992 годзе.

У школе добра абсталяваная бібліятэка, у якой каля чатырох тысяч тамоў. Ёсць у ёй таксама беларускія кніжкі. Пазычае іх ды бібліятэчныя заняткі вядзе настаўніца Марыя Садоўская. Варта паглядзець этнаграфічны куточак у адным са школьных, светлых і прасторных залаў. Ёсць тут цікавая экспазіцыя беларускай народнай вышыўкі, вырабаў з саломы і гліны, пакрашаныя велікодныя яйкі. Падрыхтавала яе настаўніца рускай і беларускай моў Ірэна Хадакоўская. Яна часта арганізоўвае аўтарскія сустрэчы з членамі Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", сустрэчы з журналістамі беларускага тыднёвіка "Ніва" і беластоцкага радыёвяшчання. Моладзь плануе сустрэчу з рэдактарам "Зоркі" Міраславай Лукшай. Апошнім часам госцем аўгустоўскіх школьнікаў быў "белавежац" Янка Целушэцкі, аўтар літаратурнага зборніка "Імгненні". Дзеці купілі сабе на памяць дваццаць ягоных кніжак. Усе, вядома, з аўтографам.

Вучні з Аўгустова ахвотна ўдзельнічаюць у прадметных конкурсах і алімпіядах, між іншым па рускай і польскай мовах, гісторыі, матэматыцы. У апошнім часе, 2 красавіка бягучага года, удзельнічалі ў гмінным турніры на тэму пажарнай аховы - "Моладзь і супрацьпажарная прафілактыка". Турнір прайшоў у Аўгустове пад кіраўніцтвам дырэктара школы Валянціна Глівы.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## НАШЫ КАРАНІ

### L. КРЫВАВЫЯ ІНТРЫГІ

Пасля смерці ў 1492 г. караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка яго сыны занялі: Аляксандр - вялікакняскі пасад у Вільні, Альбрахт жа - каралеўскі трон у Кракаве. Гэтае раздзяленне дзвюх дзяржаваў магло паспрыяць становішчу праваслаўных у Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім), бо амаль усё яе насельніцтва было тады праваслаўным, а князь Аляксандр перад тым як "выбралі і паднеслі его стародавнымі цэрэмоніямі на замку віленскім і на маестаце посадилі" ("Хроніка літоўская і жамойцкая"), пацвердзіў усе ранейшыя правы жыхароў ягонай дзяржавы незалежна ад іхняга веравызнання і адчуваў сябе моцна звязаным са сваім пасадам.

Аднак сталася наадварот: каталіцкі Касцёл на чале з папам Аляксандрам VI і фанатычным арцыбіскупам віленскім Войцехам Табарам палічылі, што якраз настаў самы зручны момант, каб перавесці ўсё праваслаўнае насельніцтва Аляксандравай дзяржавы ва унію. Перш за ўсё ім удалося псіхічна зняволіць князя Аляксандра ды стаць яго духовымі правадырамі. Затым яны ў глыбокай таямніцы пачалі схіляць да адступніцтва ад праваслаўя самых хісткіх іерархаў і шукаць кандыдата на мітрапаліта, які гатовы быў бы патаемна прыняць унію і падпарадкаваць папе рымскаму ўсю праваслаўную Царкву ў Беларускай дзяржаве. Здраднікі знайшліся, а уніяцкім мітрапалітам патаемна згадзіўся стаць смаленскі епіскап Іосіф Балгарыновіч.

Балгарыновіч быў сваяком Івана Сапегі, які дзеля кар'еры адступіўся ад праваслаўнай веры сваіх продкаў і прыняў каталіцызм, у той час ён ужо займаў высокую дзяржаўную пасаду канцлера вялікага князя. Сапега і даручыў Балгарыновіча арцыбіскупу Табару дзеля адпаведнай "апрацоўкі" яго. Такім чынам хаця і ў вялікай таямніцы, але наступ на праваслаўе пайшоў шырокім фронтам. Адной з найважнейшых спраў у гэтай змове было для каталіцкай іерархіі і князя падманам здабыць у тадышняга праваслаўнага патрыярха канстанцінопальскага Ніфанта ІІ пастаўленне ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі уніята Іосіфа Балгарыновіча. На перашкодзе гэтаму быў старэнькі і ўжо дажываючы сваіх дзён мітрапаліт Іона. Але не толькі...

Хітрыкі ды падкопы з боку каталіцкай іерархіі сталі вядомы праваслаўным. І яны справы не праспалі. Як толькі мітрапаліт Іона памёр, "хутка сабраліся епіскапы ўладзімірскі Васіян, полацкі Лука, тураўскі Васіян, луцкі Іона і паставілі архімандрыта Макарыя ў епіскапа, а затым у мітрапаліта Кіеву і ўсяе Русі", - так падае адзін з летапісаў. Як тое хутка дзеялася, сведчыць факт, што іншыя епіскапы не паспелі прыбыць на пастаўленне. І такім чынам апярэдзілі сваіх праціўнікаў. Мітрапаліт Макарый быў ахвярным і актыўным дзеячом праваслаўнай Царквы, патрапіў вельмі спрытна і настойліва абараняць інтарэсы праваслаўя і за гэта яго ворагі празвалі "Чортам". Толькі пасля пастаўлення мітрапаліта епіскапы паслалі ў Канстанцінопаль за яго благаслаўленнем. Патрыярх спачатку быў незадаволены гэтакай паспешлівасцю, але калі пасланцы, старац Дзіянісій і ерадыякан Герман, растлумачылі Яго Святасці прычыну, ён выказаў адабрэнне такой спешцы. Мітрапаліт Макарый атрымаў патрыяршае благаслаўленне.

Але каталіцкая іерархія і уніяты не здаваліся. Яны надалей вялі сваю работу па ўвядзенню уніі ва ўсёй Беларускай дзяржаве. Цяпер ім галоўнай перашкодай стаў непадатлівы і настойлівы абаронца праваслаўя, мітрапаліт Макарый. Яны ўсчалі патаемныя перамовы з канстанцінопальскім патрыярхатам і за немалы, відаць, падкуп атрымалі яшчэ пры жывым мітрапаліце Макарыі ад наступніка Ніфанта ІІ патрыяршае благаслаўленне на пастаўленне ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі уніята Іосіфа Балгарыновіча.

Цяпер заставалася толькі пазбавіцца мітрапаліта Макарыя. Нагода да таго надарылася выдатная. Напрадвесні 1497 года крымскія татары чарговы раз уварваліся ў паўднёвыя землі Вялікага княства Літоўска-Беларускага. Пад пагрозаю апынуўся Кіеў, мітрапаліцкая сталіца. Ці то за намовай праватараў, ці з-за іншых нявысветленых дагэтуль прычын, мітрапаліт Макарый у акружэнні невялікай аховы падаўся ў Кіеў, каб ратаваць сваю кафедру. Таямнічым збегам акалічнасцяў пра яго паездку даведаліся татары, і больш за 100 км ад Кіева, на рацэ Пцічы, каля Мазыра, на яго напала татарская арда. Пад яе крывымі шаблямі загінуў мітрапаліт і большасць яго спадарожнікаў, іншыя зніклі без следу ў ардынскай няволі. Гэтая трагічная падзея мела месца 1 мая 1497 года. Праваслаўная Царква кананізавала мітрапаліта Макарыя як выдатнага стараецеля за справы праваслаўя, а яго памяць ушаноўваем 1 мая.

Каталіцка-уніяцкая апазіцыя трыумфавала. Ужо 10 мая 1497 года быццам бы "прыходзіць" ад канстанцінопальскага патрыярха пасланец з патрыяршым блаславеннем ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Іосіфа Балгарыновіча. Мітрапаліт-уніят і яго паплечнікі цяпер ва ўсю моц разгарнулі сваю дзейнасць. Але на іх злачынным шляху паўсталі новыя перашкоды, якіх яны не змаглі пераадолець. Аднак пра тое ў наступным адрэзку нашай гісторыі.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## УСПАМІНЫ З ДЗЯЦІНСТВА І МАЛАДОСЦІ

Нядаўна выйшла з друку другая паэтычная кніжка Дзмітрыя Шатыловіча „Маё Падляшша"*), у якую ўвайшла асноўная літаратурная творчасць паэта, цесна звязаная з успамінамі з гадоў дзяцінства і маладосці, пражытых у роднай вёсцы Чаромха на Беласточчыне. Самы прыгожы перыяд у жыцці чалавека — дзяцінства і маладосць — працякаў у той час, калі душа і цела паэта не былі яшчэ акалечаныя жудаснымі падзеямі другой сусветнай вайны.

У пасляваенны час, пасля атрымання дыплома, Д. Шатыловіч пасяліўся ў Варшаве, дзе пастаянна пражывае. Таму сумуе ён па сваёй малой айчыне — Падляшшы. Свой сум, захапленне роднымі мясцінамі, паэт пераліве на паперу:

З айчынная зямлёй я зжыўся ад калыскі,
І пакахаў яе тут сэрцам і душой.
І гэты родны край заўжды мне будзе блізкі,
Хоць можа сумны ён, ды ўсё ж такі ён мой.
*(Падляшша)*

Хочацца тут прыгадаць яшчэ фрагмент другога верша, які сведчыць аб настроі душы паэта:

Твой лёс, як мой, мне дарагі бясконца,
Калі нядобры — сэрца плач гняце.
Калі ж табе засяе шчасця сонца,
Тады ў душы мне радасць зацвіце.
*(Радзіма)*

Большасць вершаў у зборніку — гэта ўспаміны паэта з роднай вёскі. Паэзія Шатыловіча даступная кожнаму чытачу, нават без ніякай літаратурнай падрыхтоўкі. Яна знаходзіць простую дарогу да сэрца кожнага чалавека. Найбольшая каштоўнасць паэзіі Шатыловіча заключаецца ў яе бытавізме, дакументалізме. Новыя пакаленні беларусаў будуць шукаць у гэтай паэзіі аўтэнтычных слядоў мінулага. Ужо ў першым, надрукаваным у „Ніве", а таксама і ў зборніку, вершы „*Падляшша*" дзіцячы свет бачаны паэтам не з акна вагона — як сам піша — толькі глыбока перажыты ў дзяцінстве:

Пасуцца два кані з абцёртымі бакамі
І моцна спіць пастух з вуздой пад галавой.

Так прыгожа можа сказаць толькі той, хто да сёння чуе пад шчакой прапахлыя конскім потам рамяні аброці.

Хіба ніхто з „белавежцаў" так дэталёва не апісаў бацькоўскага дому (а, праўдзівей кажучы, дамоў), як гэта прадставіў Д. Шатыловіч:

Я помню счарнелыя сцены
Пад жоўтай страхою, як воск,
Парог ля дзвярэй, як палена,
І плот з крашівою ў мой рост.
І сенцы, і нізкі пакоік,
І белую рускую печ,
Пад цёмнай іконаю столік,
Лампаду, падстаўку для свеч.
Маленькія вокны-шчыліны
Свяцілі, як зоркі з двара,
Падлогай быў чорны ток з гліны
Патрэсканы, быццам кара.
Між печкай, а сценкай быў „запык" —
Шэсць дошак, з саломы сяннік —
Тады я не бачыў канапы,
Аб ложку я нават не сніў.
*(Мая першая хата)*

У сваім вершы „*Сустрэча*" паэт з гарыччу сцвярджае:

Даўно няма маленькай кволай хаткі,
Дзе першы раз я ўбачыў водбліск дня...

На пачатку другой сусветнай вайны, у 1939 —

Пажар вайны забраў другую хату...

Працавіты бацька паэта перад сваёй смерцю яшчэ раз падняўся з папялішча:

А там вітае белаю папахай мой трэці дом...
Ён перажыў маё з ім расставанне,
Калі мяне ў няволю вораг браў,
І маткі, і сястры маёй рыданне,
Калі ад ран мой бацька паміраў.

Паэт надзвычай балюча перажывае працэс асіміляцыі беларускай моладзі. Успамінае ён сваю аднакласніцу з беларускай школы ў Бельску-Падляшскім:

Ты сцвярджала тады, што выраслa з люду,
І што любіш бязмерна народ беларускі,
І што хочаш змагацца, каб жыў ён усюды
Багацейшы штогод, ды культурна, па-людску.
Ты чакала тады з непахісным спакоем,
Што калі атрымаеш дыплом педагога
Дык паедзеш вучыць пад сялянскай страхою,
Дзесь у вёсцы, як кажуць, забытаю Богам.
А цяпер я гляджу, ты зрабіла „кар'еру":
На настаўніцкі хлеб ты рукою махнула,
Спалучыла свой лёс з пажылым афіцэрам
І яго пад вянец у касцёл зацягнула.
Ад старых ты паспела сяброў адказацца,
Як табе муж прадставіў прыяцеляў новых,
А прад імі ўжо сорамна нават прызнацца,
Што ты знала калісь беларускую мову.
*(Ты ўжо забыла)*

У адрозненне ад беларускай моладзі, якая пакінула сваё асяроддзе і асімілявалася, паэт верыць у іх бацькоў, што асталіся ў вёсцы:

А сяляне і ў буру, і ў град,
І ў галодныя годы нядолі,
Захавалі свой родны абрад,
І не здрадзілі мовы ніколі.

Не прымусілі веры змяніць
Езуіцкія путі і школы,
Не маглі да сябе прыманіць
Таямнічыя муры касцёлаў.

А ў нядаўнія грозныя дні
Іх не знішчылі зграі фашыстаў,
І не выгналі з родных станіц
І мясцовыя банды нацыстаў.
*(Не сумуй, беларус)*

Варта звярнуць увагу чытачоў на цікавыя прыродаапісальныя замалёўкі паэта (*Вечар над ракой, Пасля дажджу, Ноч на пашы, Сонца золатам праменяў)*.

Многа шчырых радкоў знойдзе чытач таксама і ў любоўнай лірыцы паэта. Першая палкая любоў у акупацыйных абставінах няволі і яшчэ адно мо ўжо спозненае каханне, у якім паэт са шчырай самакрытыкай прызнаецца:

Нашто я табе, дарагая,
Навошта гарыш, як агонь?
Ды ты, як вясна маладая,
А мне сівізна гладзіць скронь.
Як толькі пялёнка начная
Адкрые ліхтар угары,
Тады ты зірнеш, дарагая,
І скажаш: які ж ты стары.
*(Нашто я табе, дарагая?)*

Думаю, што прыведзеныя мною абшырнейшыя вытрымкі з паэтычнага зборніка Дзмітрыя Шатыловіча заахвоцяць чытачоў купіць гэтую цікавую кніжку (яе можна купіць і ў рэдакцыі „Нівы").

**ВІКТАР ШВЕД**

-------------------

**/ Дзмітры Шатыловіч, Маё Падляшша. Выдавецтва ГП БГКТ, Беласток, 1993.*

## Ліст у рэдакцыю

**Паважаная рэдакцыя „Ніва"!**

Напісаць да Вас захацелася мне тады, калі прачытаў я нататку М. Панфілюка „Філасофія на лоне прыроды" („Ніва" н-р 52 за 1992 г.), дзе ён піша аб кніжцы Янкі Целушэцкага „Імгненні", выдадзенай за кошт аўтара. „Імгненняў" Целушэцкага я якраз не меў шчасця чытаць, і не магу на гэту тэму нічога сказаць. Але вось у 4 н-ры „Нівы", у „Нашай пошце", прачытаў я, што зборнік вершаў Д. Шатыловіча „Эцюды падарожжа" таксама быў выдадзены за кошт аўтара. Гэту кніжку якраз маю пры сабе. таксама як зборнікі Яна Чыквіна і Надзеі Артымовіч.

Мне больш падабаюцца вершы Д. Шатыловіча. Гэтае ж гаварыць таксама іншыя амерыканскія беларусы, з якімі я тут сустракаўся, і якія чыталі згаданыя зборнікі. Хаця тут не ўсе нашыя землякі ахвотна чытаюць беларускую паэзію, бо і не ўсе ўмеюць дабра чытаць, аднак за „Эцюды падарожжа" плацілі па 3 долары, калі ўсе іншыя цяжка прадаць і за адзін долар.

Я жыву ў штаце Нью-Джэрсі ў Беркелей, а прыехаў у Чыкага да свайго сябра і ў яго знайшоў падшыўкі „Нівы". Не чытаў я яе з 1981 г., калі выехаў з Польшчы. У яго я знайшоў кніжкі вышэй згаданых аўтараў. Зборнік Д. Шатыловіча купіў ён пры царкве, а Чыквіна і Артымовіч прыслалі яму з Беластока. Да 1981 года я чытаў рэгулярна „Ніву" і памятаю Д. Шатыловіча і Я. Чыквіна з „Літаратурнай старонкі", якая тады была — як мне здаецца — цікавейшая чым цяпер. Добра, што „Ніва" падала адрас Д. Шатыловіча. Я ўжо выслаў яму ў Варшаву 400 долараў, каб ён мог падрыхтаваць другі зборнік сваіх вершаў. Я думаю, што пакажацца ён хутка, бо Шатыловіч пісаў калісьці нямала.

**ДАРАФЕЙ ПАРФЯНЮК**

* * *

У лістах некаторых карэспандэнтаў „Нівы" паяўляецца часам ні то здзіўленне, ні то пытанне, чаму моў некаторыя „белавежцы" выдаюць кніжкі за свае грошы, а іншым фінансуе выданні літаратурнае аб'яднанне. Затым робяць хуткаспелыя, шаблонныя высновы: ого, аўтар пакрыўджаны! Эге, значыць кніга амаль падпольная, дык і цікавейшая, чым тыя спаганена-афіцыйныя.

Маем як бы трох нашых гэтых „пакрыўджаных" „сам-аўтар-выдаўцоў". Але Я. Целушэцкі, аўтар „Імгненняў", ніколі не складаў управе „Белавежы" прапанову выдаць ягоны зборнічак. А Ю. Баена і Д. Шатыловіч склалі свае машынапісы да друку. Аднак, калі рэдактар, які рыхтаваў іх творчасць да выдання, запрапанаваў ім унесці папраўкі ці проста дапрацаваць той ці іншы твор, яны не пагадзіліся з гэтымі заўвагамі і прапановамі. І паспешліва выдалі, так сказаць, па-за структурай „Белавежы" — адзін за ахвяраваныя яму долары, другі — за свае залатоўкі. Вось і ўсё.

А што яны, нашы „пакрыўджаныя", маюць сваіх прыхільнікаў — то не навіна. Адзін любіць металічную музыку, другі — рокавую, трэці — сімфоніі Бетховена, чацвёрты — сола на скрыпцы, нехта яшчэ ж — ігру на балалайцы, а іншы — кадрылі на акардэоне. І калі хто вельмі любіць, напр., накцюрны Шапэна, а выключае прыёмнік, калі гучыць канкрэтная музыка або джаз, дык гэта не значыць, што тую канкрэтную музыку ці джаз нельга стварыць і слухаць. Гэта можа значыць, што трэба пагадзіцца са сваёй глухатою.

А ёсць людзі, якія ўспрыймаюць музычныя жанры ў шырокім дыяпазоне — ад класічнай музыкі да суперавангарднай. Але яны найчасцей скромна маўчаць. Бо ўмець слухаць і разумець музыку — гэта таксама мастацтва. О, як многа трэба ведаць, каб маўчаць! І не абвяшчаць свету, што кожная, як яму здаецца, напатканая пад нагамі трэска, гэта жывое дрэва жыцця!

**Я. ЧЫКВІН**

## "ДОМ НА МЯЖЫ"

Цяжка ўявіць сабе, як выглядала б п'еса Славаміра Мрожка ў выкананні нямецкіх ці італьянскіх акцёраў, падрыхтаваная англійскім ці шведскім рэжысёрам. Праўдападобна быў бы гэта свет абсурду і дурнаты, які з'яўляецца вынікам чалавечых прыкметаў. "Дом на мяжы" ў выкананні акцёраў Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра ім. Янкі Купалы з Менска пераносіць гледачоў у свет савецкай рэчаіснасці. Рэжысёр спектакля Анджэй Якімец з Беластока дасканала выкарыстаў козыр адчування акцёрамі псіхалагічнай атмасферы савецкай дзяржавы. Хаця Мрожак прадстаўляў якуюсь бліжэй неакрэсленую краіну, аднак у выкананні менскага тэатра бачым савецкага чалавека, прымушанага да пастаянных кантактаў з установамі дзяржаўнага апарату.

Фікцыйны свет Мрожка, у якім бяздушныя і цынічныя дыпламаты дзеля нейкіх "важных" мэтаў устанаўліваюць дзяржаўную мяжу пасярэдзіне дома "спакойнага і шчаслівага" чалавека, у выкананні менскіх артыстаў набірае прыкметаў мінаючай рэчаіснасці. Хто хаця раз меў нагоду перайсці цераз гродзенскую таможню, той зразумее, што два ідыёты на сцэне,якія выконваюць нейкую ідыятычную працу, гэта не толькі фікцыя. Толькі чалавек, які служыў у савецкай арміі можа так дасканала сыграць ролю пагранічніка на ідэалагічнай "мяжы дружбы", як зрабілі гэта менскія акцёры.

Іншая з'ява таталітарнай сістэмы — падазронасць ўсіх і ўсяго. Усюды ворагі, невядома толькі — хто яны, невядома, супраць каму або чаму яны выступаюць, але трэба захаваць чуйнасць. Іх уяўная прысутнасць апраўдвае існаванне разведкі, контрразведкі і ўсіх іншых спецслужбаў.

Гэтыя камічныя ўстановы існуюць дзеля нейкіх вышэйшых мэтаў, якіх ніхто не ведае. Яны існуюць як каштоўнасць самая ў сабе, а гэтыя з'ідыецелыя дыпламаты, афіцэры, пагранічнікі, мытнікі выконваюць амаль ролю свяшчэннадзейнічаючых нейкага паранаічнага абраду.

І раптоўна канчаецца камедыя, ціхне амаль гадзінны беспярэрыўны смех публікі, фарс мяняецца ў жудасць. Узброеныя вар'яты ў мундзірах пачынаюць з энтузіязмам выпаўняць сваю місію. Літаратурная фікцыя Мрожка ператвараецца ў зласлівае прароцтва. Тэатральная сімволіка спалучаецца з рэчаіснасцю. Канчаецца камуністычнае кабарэ, пачынаецца посткамуністычнае пекла, — Югаславія, Карабах, Абхазія, Наддняпроўе, Узбекістан... чарга прадаўжаецца.

Два разы я меў нагоду глядзець гэтую п'есу С. Мрожка ў выкананні польскіх акцёраў, аднак тое, што атрымалася ў выніку супрацоўніцтва беластоцкага рэжысёра і менскіх артыстаў, дало надзвычайны эфект. Не ведаю чаму, але перш за ўсё тэкст Мрожка на беларускай мове ставрае больш іранічны вобраз кожнай сітуацыі, дзе псіхалагічная рэчаіснасць супярэчыць якой небудзь разважнасці. Беларускаму акцёру, які мае перадаць гледачу творчасць гэтага пісьменніка хапае толькі сыграць добра яму вядомыя са штодзённага жыцця ўзоры мышлення і рэакцыі ўраднікаў, паліцыянтаў, мытнікаў, інтэлігентаў або і звычайных дурняў.

Цяжка ўявіць сабе кагосьці лепшага ў ролі герояў п'есы С. Мрожка як Уладзімір Кін-Камінскі. Нягледзячы на тое, ці выступае ён у ролі абадранца з усходняй Беласточчыны, які шукае шчасця ў Амерыцы ("Эмігранты"), ці неакрэсленага Я ўкінутага ў шасцерні дзяржаўнай машынкі ("Дом на мяжы"), ад яго б'е аўтэнтычнасцю. Амаль ідэальная скупасць, подласць, мужыцкая хітрасць, наіўнасць, добразычлівасць і крываду шнасць. Усё тое, каб творы С. Мрожка знайшлі найлепшае тэатральнае адлюстраванне.

Мастацтва, на шчасце для яго самога, не талеруе межаў і, магчыма, дачакаем дня, калі польскія ці расейскія акцёры выканаюць п'есу Янкі Купалы "Тутэйшыя" і магчыма, што зробяць гэта лепей, чым іх беларускія калегі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



*С. Мрожак. ДОМ НА МЯЖЫ*
*Капітан сапёраў - Мікалай Кірычэнка.*

# ШУКАЙМА ТОЕ, ШТО ЯДНАЕ

Урэшце нешта талковае! /гл. „Ніва" н-р 9 ад 28 лютага г.г. — „Пра што гаварыцьмем?" на стар. 1/. Урэшце хтосьці загаварыў людскім голасам. Хопіць нам: „тутэйшым", „беларусам", „украінцам", „праваслаўным", „рускім", „дэмакратам", „рэфарматарам", „палітыкам" і розным „дзеячам" грызціся паміж сабой ды аплёўвацца ўзаемна. Усе мы едзем на адным вазку і да таго разваленым. Толькі дурні ў такой сітуацыі таўкуцца, даказваюць „сваю праўду", замест таго, каб змагацца за найважнейшае. Самым важным ёсць нашае жыццё тут, цяпер і ў будучыні. Трэба ратавацца, бо загінем як мухі. І паплакаць не будзе каму. Але як ратавацца? Па-мойму менш трэба „гаварыць", а больш рабіць. Ніхто за нас не створыць нам раю. Найчасцей у нас чамусьці той вінаваты, хто робіць, а найбольш заслужаны той, хто многа балбоча. Настаў такі час, калі можна ўсё гаварыць. Гаворым, і што з гэтага выходзіць? Кожны мае права быць кім хоча, але ці трэба пры гэтым узаемна сябе зневажаць? Шукайма тое, што нас яднае: родная зямля, мінуўшчына, спадчына, культура... Усім хопіць месца і працы дзеля захавання і развіцця нашай самабытнасці. Вартасць чалавека пакажуць плады яго дзейнасці, нягледзячы на яго арыентацыю ці погляды. У чым тут справа? І „беларус", і „украінец", ці „праваслаўны" маюць права рабіць сваё тое, што карыснае для нашай супольнай справы тут на Беласточчыне. Мне як беларусу /па арыентацыі/ не перашкаджае ўкраінская культура, духоўнасць праваслаўя ці руская карэнні. Наадварот, я рады жыць у такім цікавым, багатым ды карысным асяроддзі. Аднак баліць /думаю што многіх/ бескультур'е, якім яно б не было па арыентацыі, усялякая духоўная пустэча, гістарычнае бяспамяцтва, збядненне нашай культуры ды ўсходнеславянскай самабытнасці. На жаль, многія дзеячы „рознай масці" найчасцей стараюцца іншым перашкодзіць замест таго, каб самім папрацаваць. Прашу прабачэння за канкрэтныя таго прыклады, але варта паказаць адмоўныя з'явы. Калі ў Дубяжыне калектыў вядзе ўкраінскі інструктар, гэта не крыўда беларусам, але калі забараняецца камусьці выступаць у агледзе „Беларускай песні", гэта ўжо дрэнна не толькі беларусам. Факт, што Іван Кірызюк піша вершы на ўкраінскай мове нікому зла не робіць, але калі яго за гэта зневажаюць, або калі ён кагосьці не любіць за беларускую літаратурную мову дык гэта ўжо бескультур'е. А якая гэта бяда, калі на Беласточчыну прыязджаюць украінскія мастацкія калектывы з канцэртамі? Трагедыя ў тым, што нашыя мясцовыя калектывы не маюць належных умоў да артыстычнай самадзейнасці. Які сэнс сварыцца паміж „арыентацыямі"? Каму і навошта гэта патрэбнае? Напэўна не беларусам, украінцам, праваслаўным ці рускім! Калі мы ўжо такія „розныя" гэта не нашая віна, а бяда. Не мусім у такім разе быць сабе ворагамі, толькі навучыцца жыць разам і супрацоўнічаць. Няма сэнсу спрачацца хто „шызафрэнік", а хто разумны. Ёсць патрэба сабраца, пагаварыць, аказаўшы добрую волю, каб зразумець іншых. Час закончыць варажнечу і міжусобіцы, а то мы ўсе як той растрэпаны венік, якога абы слабак пераломіць па гольцы.

Добра, што ўрэшце ёсць прапанова разам сабрацца ўсім усходнеславянскім арыентацыям Беласточчыны. Лічу, што скансэн у Белавежы будзе адпаведным месцам. Тут многія ўсведамілі сваю самабытнасць і на жаль, тут здаецца пачалі разыходзіцца дарогі. Але ж карэнні ва ўсіх адны і тыя самыя, як іх не называць. Хочацца верыць, што тыя, хто шчыра заклапочаны будучынёй нашай самабытнасці знойдуць дарогу да сваіх, хоць „розных". А нам усім ёсць пра што гаварыць і трэба. Ёсць што рабіць супольна і абавязкова трэба!

**ЯН МОРДАНЬ**

## ДЭМАГОГІЯ КУПТЭЛЯ

Толькі так можна акрэсліць тое, што М. Куптэль напісаў у 11 нумары „Нівы" пад загалоўкам „Круг параноі, але дзе?" Па-першае, цяжка разабрацца ў тым, пра што ідзе Куптэлю. Панфілюк у адрозненні ад яго піша проста і зразумела для кожнага чытача. Па-другое, тое, што Панфілюк стараецца бараніць Кірызюка і даказаць, што ўкраінцы гэта нашыя браты не ёсць ніякай балбатнёю. Таксама шмат іншых яго артыкулаў было напісаных як вынік размоваў, якія вядуцца ў нашым сялянскім асяроддзі. Таму голас Панфілюка не ёсць толькі яго прыватнай думкай, а нейкай грамадскасці. Працуе ён у нас пісьманосцам ужо 28 гадоў, людзі яго шануюць і з зацікаўленнем чытаюць ягоныя артыкулы.

Панфілюк ніколі не шукаў помсты, не мае характару сталініста як шмат г. зв. „заслужаных беларускіх дзеячоў". Чытаючы цяпер гэтых свежа спечаных „дэмакратаў", асабліва спецыяліста па „беларускіх капіталістах", сумна робіцца, калі чалавек усвядоміць сабе, што крывадушнікі заўсёды выйдуць на сваё. Панфілюк нават калі насіў білет камуністычнай партыі, камуністам так напраўду ніколі не быў, заўсёды змагаўся са злом. Некаторыя, хаця і не былі членамі партыі, а думаюць і паводзяць сябе як салідныя бальшавікі.

Што датычыць нашай мовы, вядома, што яна ні беларуская, ні ўкраінская, але для нас яна найдаражэйшая. Хачу сказаць, што я „Ніву" чытаю ўжо больш, чым 20 гадоў і літаратурнай беларускай мовы навучыўся з артыкулаў М. Панфілюка, П. Байкі, А. Гаўрылюка, Я. Целушэцкага, пісаных простымі, зразумелымі словамі.

**УЛАДЗІМІР ХІЛІМАНЮК**




### Я НЕ ПАЭТ

Я не паэт, не вучоны;
Чым я пахвалюся?
Да Хрыста, Яго Кароны
Шчыра памалюся.
Я не паэт, болей нізкі,
Часта выбуховы
(Не пабіў, што праўда, міскі) ,
Трэба мо адновы?
Я не паэт, і не філосаф,
Просты той мужык,
З конікам у калёсах
Працы не адвык.
Я не паэт, мала вучыўся —
Проста — самавук!
„Веры прывучыўся" —
Скажа, што нявук.
Я не паэт, складаю вершы,
Сэрцам, што дыктуе.
Грэшнік я, дык першы:
Бог нас усіх пільнуе
Я не паэт, далёка мне
Строкі ўкладаць.
Наяве, не ўва сне,
Бога паважаць!
І хаця я не паэт — нічога.
Меўшы крыху веры,
Я іду да Бога;
Ён адкрыў мне дзверы.
І хаця я не паэт, буду я прасіць:
Божа, дай мне сілы,
Буду даражыць
Вечна; Ты мне мілы.
Я не паэт і як магу
Слаўлю, паважаю
Рытм свой падыму,
Хрыста абдымаю.
Адзін мо талент той мізэрны
Павінен я мець
Галоўна, каб верным,
І Бога прапець.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

З народнай абраднасці

## СВЯНЦОНАЯ ВЯРБА

У Вербную нядзелю - за тыдзень да Вялікадня - людзі адпраўляюцца ў царкву з пучкамі вярбы, каб яе асвяціць.

Вярба - гэта дубцы лазовых дрэў, пераважна такіх, на якіх ёсць так званыя "коцікі" - жоўтыя кветкавыя пупышкі. Далучалі таксама да пруткоў галінкі ядлоўцу.

Ужо да царкоўнага асвячэння вярба не ўжываецца нават дзецьмі на гульнёвыя патрэбы. Пасля яго становіцца яна ганаровай святыняй дома і па-за ім. Людзі прыдаюць ёй магічнае значэнне. І так, некаторыя з'ядаюць пупышку вярбы або ягадкі асвечанага ядлоўцу, каб летам абараніць сябе ад навальніц. Той, хто прыйшоў у дом са свянцонай вярбой, перш за ўсё стараецца тры разы стукнуць вербным пучком або асобным прутком кожнага члена сям'і, прыгаворваючы: "Вярба б'е, не я б'ю - за тыдзень Вялікдзень!". У сваю чаргу тое ж робіцца з госцем.

Дома гаспадар або гаспадыня абыходзяць з вярбой пабудовы для жывёлы, злёгку стукаючы ёю тры разы кожную жывёліну паасобна і ўтыкаюць вярбу ў шчыліну хлява. Цікава, што не падлягаюць хлястанню кошкі і сабакі. З другой вярбой абыходзяць іншыя гаспадарчыя збудаванні, агарод, поле і зноў тры разы сцёбаюць ёю ў розных месцах нівы і па сканчэнні ўсяго вербны пруток утыкаюць у адзін з куткоў агарода або нівы. Тое ж самае назіраецца і пры магіле сваяка, куды з прутком вярбы хто-небудзь абавязкова адпраўляецца для прывітання на магілах сваякоў. І тут тры разы хлешчуць магільны ўзгорак. Вербны пруток не вяртаецца дадому, а пакідаецца ўваткнутым там, дзе ён ужываўся.

Рэшткі вярбы зберагаюцца да наступнага Вербнага тыдня і толькі тады, калі новая вярба паступіць у дом, спальваюцца ў печы, што адначасова ва ўсіх дамах адбываецца ў перадвелікодны панядзелак.

Вярба абслугоўвае многа патрэб на працягу ўсяго года. У час першага грому з'ядаецца адна пупышка або кончык вербнага прутка, каб у наступны час не баяцца летніх навальніц. Пры наступленні навальніцы або набліжэнні хмары вербны пучок або ставіцца на падваконнік у бок навальніцы і хмары, або выстаўляецца на знешнім баку акна, каб аддаліць навальніцу і хмару, тармазіць магічныму небяспеку. Пры недамаганні сем'яніна або хатняй жывёлы людзі акурваюцца вярбою, акурваецца гняздо квактухі, цельная карова і наогул цяжарная жывёла, каб тым або спыніць хваробу, або захаваць ад "дурнога вока".

Вербныя пруткі і ядловец адварваюцца ў чыстай вадзе і ўжываюцца як лекі ад рэўматызму, пухліны, удару. Здробненая ў парашок вярба служыць засыпкай на раны і прышчы ў людзей і жывёлы.

Пры пераходзе ў новы дом вербны пучок раздзяляецца папалам: адна частка застаецца ў старым доме, а другая пераносіцца ў новы, прычым першая застаецца ў доме да яго разбурэння, а потым спальваецца ў панядзелак перадвелікоднага тыдня.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**




XXXVI




Аб тым, як розныя ацэнкі выказваюць людзі аб тых пераменах, якія адбываюцца сёння ў краіне, могуць сведчыць два галасы студэнтаў-беларусаў, якія вучацца ў Варшаве ў Палітэхніцы і ў Варшаўскім універсітэце. Абое знаходзяцца на пятым курсе і ў чэрвені бягучага года павінны яны абараніць магістэрскія дысертацыі.

Вось думкі першага студэнта:

„Капіталістычныя перамены былі ў нас непазбежныя. Сацыялістычная Польшча была анахранічнай краінай і ішла ў адваротным кірунку, чым той, у якім ішлі ўсе перадавыя краіны свету. Вы паглядзіце на свет, усе разумныя народы пайшлі за Амерыкай і выйгралі, усе мала разумныя пайшлі за Расіяй і прайгралі. Дзякаваць Богу, Расія прынамсі на сто гадоў патане ў хаосе і не будзе ўмешвацца ў жыццё іншых народаў. Скінуўшы савецкае ярмо, народы свабодна ўздыхнулі. Найважнейшае — тое, што чалавек стаў вольным, што не мусіць маліцца да ніякіх палітычных догмаў. Праўда, я сёння маю намнога меншую стыпендыю, чым меў будучы студэнтам першага курса пры сацыялізме. Аднак гэта не праблема. Скажу Вам шчыра, як зарабляю на пражыццё і на дом студэнта, аплата за які хутка, мабыць, дойдзе да паўмільёна ў месяц. Даражэе таксама жыўнасць. Аднак я сабе даю вельмі добра раду. Спытаеце — як? Вельмі проста. Купляю ад рускіх на базарах амерыканскія сігарэты. Важу іх у Швецыю або на поўдзень Польшчы. Барані Божа, не стаю там на базарах. Прадаю два чамаданы сігарэт гуртам. На адной паездцы зарабляю на чыста каля двух мільёнаў. Езджу ў месяц трычатыры разы, зарабляю прыблізна семдзевяць мільёнаў у месяц. Зразумела, што жыву прыпяваючы. Сам, зрэшты, не куру і мала п'ю. Я ўдзячны сёняшняй Польшчы за тое, што не звязвае рук і дазваляе мне зарабіць. Хачу яшчэ сказаць і тое, што разам са мной жывуць такія валы, якім не хочацца падняць задніцы з крэсла. Дык вядома, што тыя жывуць у прогаладзь і за дом студэнта не плацяць. Некаторых ужо за гэта выкінулі з інтэрната. Мяне ніхто не выкідвае, бо плачу рэгулярна кожны месяц.

Вы, напэўна, думаеце, што я жыву сягоняшнім днём і не думаю аб будучыні. Тым часам я аб заўтрашнім дні думаю вельмі інтэнсіўна. Якраз думаючы аб будучыні, кожны месяц адкладаю 2-3 мільёны на ашчадную кніжку. Вядома, што гэтага не хопіць на тое, каб набыць кватэру, але веру, што пападзецца мне нейкі большы бізнес, на якім зараблю дзесяткі або сотні мільёнаў.

Праўдападобна, як і большасць маіх калегаў, не атрымаю я працы. Але гэтым не пераймаюся. Бо ці ёсць сэнс браць работу за два мільёны ў месяц? Такое штосьці — гэта для нядачнікаў. Я думаю аб шырэйшых водах. Мушу разлічваць толькі на сябе. Праўда, бацькам у вёсцы жывецца ўсё цяжэй. Таму не разлічваю на іх дапамогу. Сёняшні ўрад добры. Не накладае вяровак ні на рукі, ні на душы. Праўда, крышку перабольшвае з гэтымі хрысціянскімі вартасцямі. Але гэта толькі рыторыка, якая не перашкаджае мне жыць так, як я хачу. Зрэшты, калі добра, дык добра, а калі не, дык буду шукаць шчасця недзе па-за граніцамі Польшчы ".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Вучнёўская творчасць

### РОДНАЯ МОВА!

Родная мова, прыгожая!
Родная мова, цікавая!
Ты прайшла шмат гадоў-вякоў!
Ты ж — вучыла нас!
Нашых бацькоў, дзядоў.
Але прыйшоў час,
Каб абараняць вас.
Буду табой гаварыць
І ў тваёй душы жыць!

### ХЛЕБ

Пшанічны, румяны,
Ляжыць хлеб на стале ўдалы.
Спечаны з мукі белай,
Бабулінай рукой умелай,
З мукі з пшаніцы залацістай,
Памытай дажджавой вадзіцай чыстай,
Прыгрэтай светлым ветрам!

### МОЙ ТАТА

Хто ж мілейшы?
Хто ж разумнейшы?
Хто навучае,
Перасцерагае?
Вядома, тата!
Лепшы ад брата.
Кажа:
— Вучыся, вучыся, Юра,
Гульні і псоты — гэта „бздура"!
Самі ведаеце:
Няма лепшага
Сябра ў свеце!

ЮРКА БУЙНЮК, Маліннікі

Сёе-тое пра чалавека

### УНІВЕРСАЛЬНЫ ФІЛЬТР І НАДЗЕЙНЫ КАНДЫЦЫЯНЕР

Навошта патрэбны дыхальныя шляхі? Калі коратка, то каб падрыхтаваць удыханне паветра для лёгкіх, бо звычайна яно не адпавядае неабходным параметрам. Яно павінна быць чыстым, утрымліваць 21% кіслароду і 0,03% вуглекіслаты, мець 80% вільготнасці і тэмпературу каля 37°С.

Каб было менавіта так, удыхаемае паветра праходзіць праз своеасаблівае сіта з валаскоў пры ўваходзе ў поласць носа. Чым больш забруджана паветра, тым вузейшым робіцца ўваход і больш частым (дробным) становіцца "сіта", на якім затрымліваецца большасць буйных часцінак паветра.

Ракавіны ў поласці носа накіроўваюць паветра па насавых хадах і да купала поласці. Слізістая абалонка носа выдзяляе столькі цяпла, слізі і вадкасці, колькі неабходна, каб сагрэць або ахаладзіць паветра да тэмпературы цела, увільгатніць яго і затрымаць пыл. Пад дзеяннем слізі мікробы ў большасці сваёй гінуць. Калі на слізістай абалонцы скопіцца адносна многа пылу, узнікае чох, і камячкі пылу выкідваюцца разам са слізззю.

З-пад купала поласці носа паветра трапляе ў глотку, дзе працягвае сагравацца і ачышчацца ад пылу і мікробаў, на гэты раз - у лімфатычных вузлах, якімі ўсеяны сценкі глоткі. Адтуль паветра без затрымкі рухаецца ўніз у гартань, да галасавой шчыліны. Мімалётнага прыпынку паветранага патоку над галасавымі звязкамі дастаткова, каб паветра канчаткова сагрэлася, а самыя дробныя пылінкі і рэшткі раздражняльных рэчываў з паветра аселі на слізістай абалонцы гартані. Пры самым нязначным яе раздражненні ўзнікае моцны кашаль. У выніку амаль усе шкодныя прымессі (дамешкі) паветра выдаляюцца з дыхальных шляхоў.

У ніжнія дыхальныя шляхі (трахею і бронхі) ужо паступае амаль ідэальнае па саставу паветра.

Г. ШЭРШАНЬ



*Вясенні рэйд.* **Фота Юркі Трачука**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ПРА ТОЕ, ЯК МЫШКА ПІК-ПІК АШАЛЕЛА

Мышка Пік-Пік вельмі любіла, калі да Мамы і Таты прыходзілі госці. Колькі смачненькага заставалася пасля іх на стале! Вось і сёння Мама з раніцы завіхалася на кухні, а Тата ставіў пасярод залы вялікі стол, за якім цяпер сядзелі госці — дзядзя Дзіма-кампазітар і яго жонка. Мышка сядзела пад шафай і не магла дачакацца, калі госці пойдуць і пакінуць ёй гэтыя торцікі, і салату, і катлеткі... Але госці не спяшаліся. Тата ўсё разліваў і разліваў па крышталёвых чарках чырвоны напой з прыгожай бутэлькі, і Мама і чужая цётка хорам паўтаралі:

— Ах, якое цудоўнае віно! Салодкае, духмянае...

Так што мышка ўрэшце-рэшт зацікавілася: што ж гэта за такі напой? І калі госці нарэшце пайшлі, а Тата і Мама з Веранічкай таксама рушылі, каб іх правесці, Пік-Пік ускочыла на стол і пачала дапіваць з чарак чырвоную вадкасць. Гэта было не так ужо соладка, як гаварылі Мама і цётка, але нечым прыемна. Выпіўшы з некалькі лыжак, Пік-Пік адчула незвычайную лёгкасць і весялосць. Яна падалася самой сабе такой прыгожай, такой моцнай і смелай, што ножкі яе ад захаплення падкурчыліся, і мышка села на недаедзены торт. Мышка сядзела вельмі шчаслівая, у вачах яе леталі рознакаляровыя зорачкі. Не, зараз проста неабходна зрабіць нешта адпаведнае настрою, нешта гераічнае і запамінальнае. І тут мышка Пік-Пік успомніла, як некалі крыўдзіў яе паганы кот Мурзік. Няўжо ж яна, супермышка, баялася нейкага падвальнага ката? І ён, магчыма, смяяўся над ёю! Пік-Пік ускочыла на ножкі, схапіла відэлец і крутанула ім у паветры, зусім як гэта рабілі мячом супергероі мульцікаў.

— Я іду біць ката! — ганарліва ўскрычала Пік-Пік і рушыла ў норку, дзе, як вядома, была дзірка ў сцяне, праўда, залеплена пластылінам. Пік-Пік раскалупала пластылін відэльцам і пралезла ў вузкі ход.

З вялікай цяжкасцю дапаўзла Пік-Пік да падвала. Але, ачуняўшы, не стала марнаваць час, узмахнула відэльцам і ўсклікнула:

— Сюды, гнюсныя жывёліны! Я, супермышка, буду біць вас смяротным боем!

На няшчасце, Мурзік сапраўды быў побач. Ды яшчэ і не адзін: усе каты двара сабраліся сёння ў падвал, бо на вуліцы ішоў дождж. Пачуўшы мышыны крыкі, Мурзік узрадаваўся: нарэшце гэтая нахабная тоўстая мыш сама да яго ў зубы напрошваецца! Але, калі мышка, убачыўшы ашчэраную кашэчую пашчу, не спалохалася, а тыцнула ў яе відэльцам, Мурзік задумаўся. Між тым адважную гераіню абкружылі астатнія каты і ў разгубленасці назіралі, як яна вытварае прыёмы ўсходніх адзінаборстваў, час ад часу куляючыся на падлогу і выкрыкваючы жахлівыя пагрозы. Ніхто не наважыўся перапыніць гэтае прадстаўленне. Нарэшце Пік-Пік у чарговы раз спатыкнулася, упала на спінку, ікнула і гучна захрапла. Тады самы стары і мудры кот з парваным вухам сказаў:

— Усё ясна. Гэта шалёная мыш. Таму, браткі, каб не заразіцца, уцякайма адсюль. Яна зараз здохне, прысыпем пясочкам, і гамон. Толькі не чапайце яе!

І каты плітанулі ў іншы падвал.

Між тым мышка, крыху паспаўшы, ачуняла і ніяк не магла ўцяміць, што яна робіць у падвале, як сюды трапіла і хто яе так моцна біў па галаве — бо галава проста раскалвалася ад болю. Нарэшце, абапіраючыся на відэлец, мышка ўстала і здагадалася: гэта павінны той таямнічы чырвоны напой! Ён, відаць, чароўны, і добра яшчэ, што пакінуў мышку жывою.

—Вой-ёй, а як жа Тата і Мама — спалохалася мышка. — Яны ж не столькі гэнай атруты выпілі! Можа, іх закінула ўжо ў Афрыку!

Пік-Пік кінулася дадому. На шчасце, Тата і Мама былі ўжо там. Пік-Пік ніколькі не здзівілася, што яны паўтаралі:

— Вой, галава баліць...

— Не трэба было піць! — абурана прапішчэла Пік-Пік з-пад шафы, і Мама з Татам перазірнуліся. Мышка мела рацыю.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

## Вершы Віктара Шведа

### ЗАЎСЁДЫ, ДЗЕТКІ, ШАНУЙЦЕ КВЕТКІ!

Кветачкі ў вазоне,
На прыроды ўлонні
Хочуць заўсягды
Свежае вады.

З удзячнасці за гэта
Мілавіднасць кветак
Вабіць нас здалёк,
Цешыць сэрца, зрок.

Таму заўжды, дзеткі,
Даглядайце кветкі.
Кветачкі, каб жыць,
Патрабуюць піць.

### СОНЦА ЗАПАЛІЛАСЯ

Разганяе вецер
Хмарынкі свінцовыя,
Пачынаюць дзеці
Зноў гульні зімовыя.

Маленькая Ната
Надзвычай здзівілася:
— Глянь на неба, тата, —
Сонца запалілася.

### НЕЛЬГА ЦАЛАВАЦЬ ЗВЯРОЎ

У клас настаўнік увайшоў
І пачалася ўжо вучоба:
— Няможна цалаваць звяроў,
Бо пераносяцца мікробы...

— А ж цалаваў ката Сяргей! —
Азваўся нечакана Фома.
— А што здарылася пазней?
— Пазней кот гэты... здох, вядома.

### ХТО РОБІЦЬ ПАМЫЛКІ?

Той толькі памыляцца
Не будзе, кажуць людзі,
Хто аніякай працай
Лянівых рук не трудзіць.

— Робіць найбольш памылак
Той, — разважаў Мікола, —
Каго не навучыла
Пісаць дакладна школа.

### ПАЖАДАННЕ

Бацькі сыночка пакаралі
І плакаў ён ад болю, з жалю.
— Ды што ты, біты пастаянна,
Можаш сказаць на апраўданне?

Чаму ж ты не такі, як Коля,
Яго бацькі не б'юць ніколі!..
— Хацеў бы, каб яны таксама
Маімі сталіся бацькамі!

### КОЛЬКІ ГАДОЎ ТВАЙМУ ТАТУ?

Зося пытае Кандрата:
— Колькі гадоў твайму тату?
Хлопчык адказвае Зосі:
— Тату майму гадоў восем.

Надта здзіўляецца Дзіма:
— Гэта ж зусім немагчыма!
— Татам ён стаў, не сакрэт,
Калі я з'явіўся на свет.

### ХТО БОЛЬШ

— Буду мець дзіцятка,—
Заявіла Натка.—
Матуля — мой коцік,
Мае ўжо жывоцік.
— Я буду мець двое,—
Адказала Зоя,—
Бо жывот, на рэдкасць,
Вырас... майму дзедку.

### РАЗМОВА З БРАТАМ

Першакласніца Агата
Размаўляць надзвычай хоча
З паўгадовым сваім братам,
А ён нешта ўсё бармоча.

— Зразумець яго не ўмею,
Нейк гаворыць бесталкова.
Ці, матуля, разумее
Беларускую ён мову?

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ
## (4)

Чым небяспечны інфантылізм? Тым, што вядзе да пасіўнасці ў жыцці.

Ты баішся быць уніжаным у вачах сяброў ці сваіх знаёмых? Ты не хочаш, каб цябе шкадавалі, і лічыш, што шкадаванне абражае чалавека? Ты не хочаш, каб табе навязвалі свой пункт гледжання, а добрай парадай памаглі б знайсці сваю асабістую думку?

Ты хочаш, каб бацькі не заставаліся староннімі назіральнікамі, а падтрымлівалі цябе ў цяжкую хвіліну і дзяліліся з табой не толькі радасцямі, але і бедамі?

Ты хочаш, каб да цябе ставіліся, як да самастойнага чалавека?

Напэўна, на ўсе гэтыя пытанні ты адкажаш сцвярджальна. Дык вось, дабіцца ўсяго гэтага можна толькі тады, калі ты будзеш, вобразна кажучы, адносіцца да бацькоў так, як бы ты хацеў, каб яны адносіліся да цябе самога.

Задумайся, напрыклад, ці заўсёды абгрунтаваны твае прэтэнзіі да бацькоў. Анна К. расказвае: „Аднойчы я да слёз пакрыўдзіла сваю маму, калі ў адказ на яе заўвагу выпаліла:

— Значыць, вы мяне такой выхавалі.

Мама заплакала: „Ды ў мяне адзін клопат быў — як бы пракарміць вас. Амаль увесь час без бацькі". І ў мяне па-здрадніцку задрыжаў падбародак: усё ж добрае, што ў мяне ёсць — гэта маміна... І дабру, і чэснасці, і працавітасці, і самастойнасці яна вучыла асабістым прыкладам, а не мараллю, натацыямі, павучаннямі. І калі я мала зачэрпнула з бяздоннай крыніцы яе душы, дык толькі таму, што не вельмі імкнулася гэта рабіць, а любіла скардзіцца, прэтэндаваць у жыцці на большае, чым аддавала".

Трэба пераадолець адчужанасць, розніцу ў жыццёвым вопыце, перамагаючы неразуменне і недавер, імкнуцца самому працягнуць руку дапамогі бацькам. Няхай у адносінах з бацькамі тваімі ўчынкамі і словамі кіруюць шчырасць, любоў, розум і цвярозая ацэнка рэчаіснасці.

„Чаму нас не чуюць нашы ўласныя дзеці?" — часта пытаюцца бацькі. На самай справе, ці нармальна гэта, калі дачка знаходзіцца ў „стане вайны" з маці. Павучанні маці дачка ігнаруе, калі ёй робяць заўвагу, уключае на поўную катушку магнітафон. Тут мае месца яўная адсутнасць культуры адносін дзяцей і бацькоў. Дапусцім, табе не падабаюцца павучанні, доўгія натацыі, нараканні, але падумай, магчыма твае паводзіны таму віной і наўрад ці дапаможа ў такім выпадку наладзіць адносіны дэманстратыўная адчужанасць. Ці заўсёды ты сама бываеш цярпімай, уважлівай да патрэб іншых людзей, тваіх блізкіх?

Ці задумваліся вы над тым, чаму ў юнакоў і дзяўчат вашага ўзросту нярэдка ўзнікаюць канфлікты і непаразуменні з бацькамі? Часам падлеткі скардзяцца, што бацькі кантралююць кожны іх крок, што іх прыцясняюць.

Так, вы лічыце сябе самастойнымі. Але ці ўмееце вы быць імі? Падумайце, самі вы заваявалі правы на іх давер да сябе. Ці задумваліся вы над тым, чаму бацькі забараняюць, абмяжоўваюць, настойваюць на сваім? Так, бацькі хочуць ведаць, з кім вы бавіце свой вольны час, у колькі вернецеся дадому. Але гэта зусім не замах на вашу самастойнасць, вашыя жаданні, а элементарнае чалавечае хваляванне за ваш лёс, вашу будучыню ўрэшце.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

*ДЗМІТРЫЙ ЯКУТОВІЧ*

## НЕБЫЛІЦА

Сабраўся мураш у госці да коніка. Гасцінец узяў - макавыя зярняткі.

Пачаў з раднёй развітвацца - ды дзе там! Радні ў яго амаль увесь мурашнік - сто разоў па дзесяць і яшчэ чацвёра. Кожнага трэба абняць, слязу пусціць: дарога далёкая, пападзеш ваўкам у лапы - разарвуць на кавалкі. Тры дні развітваўся, на чацвёрты нарэшце пайшоў.

Дзень ідзе, другі, трэці, а дарозе канца не відаць. Трыццаць пар ботаў стаптаў. Залез на пянёк і заплакаў ад гора. Вакол лес дрымучы сцяной стаіць, яліны вяршалінамі неба падпіраюць. Дый ботаў шкада - усім мурашнікам два гады шылі, а ён за тры дні стаптаў.

Слёзы на пянёк кап ды кап, а з пянька - на зямлю. І пацякла па лесе рака з мурашыных слёз.

Мядзведзь у кустах малінай ласаваўся, ледзьве ў слязах не ўтапіўся. Ухапіўся за саломінку, выплыў на бераг і пытае ў мураша:

- Ты навошта маліну слязамі затапіў? Расказаў мураш пра сваё гора.

- Слязамі тут не паможаш, - кажа мядзведзь. - Сядай на мяне. Вокам маргнуць не паспееш, як у коніка апынішся!..

Дзень мядзведзь ідзе, другі, а з лесу ніяк не выберуцца.

- Злазь! - не вытрываў мядзведзь. - Стаміўся я, ледзьве дыхаю.

Селі, адпачываюць. Якраз сарока ляцела. Убачыла іх і здзівілася: зайшлі ў такі гушчар, куды і ёй боязна залятаць.

Расказаў мураш пра сваё гора.

- Сядайце на мяне, - кажа сарока. - Я мігам вас дамчу!..

Тры дні ляцела, на чацвёрты нарэшце паказаўся край лесу. А за лесам луг, на якім конік жыў. Села сарока на луг, радуецца: даляцелі! А тут і конік прыскакаў. Мураш яму пакланіўся, макавыя зярняткі аддаў. Падзякаваў конік і пачаставаў усіх гасцей - мураша, мядзведзя, сароку. Кожнаму па зярнятку дасталося.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Ася пытаецца ў свайго брата:

— Ведаеш, якая розніца паміж табою і снегам?

— Пэўна, — адказвае брат, — снег ранiцай можа паляжаць, а я павінен уставаць.

* * *

Маці піша настаўніцы запіску:

„Мая дачка не можа сёння гаварыць па-англійску, бо ў яе так баліць горла, што яна нават слоўца па-нашаму не ўмее".

* * *

У дзень нараджэння сямігадовая дзяўчынка дастала ад цёткі пяціфунтовую купюру.

— Што трэба сказаць? — дакарае малую шатландку маці. — Не ўмееш гаварыць? Скажы штосьці!

— Толькі столькі? — азвалася дзяўчынка.

* * *

— Мама, мама,— крычыць малая шатландка,— тата напэўна задалёка выплыў у мора...

— Не хвалюйся, малютка. Тату можна, ён застрахаваны...

* * *

Настаўнік:

— Усім вам сёння запішу ў дзённічак увагу, што вы кепска паводзілі сябе на ўроку, перашкаджалі мне. Толькі адзін Юрка не будзе мець заўвагі — ён спіць.

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

ПРЫГОДЫ ДЭТЭКТЫВА ГАЎКА

ЛЯВОН ВОЛЬСКІ

ЦІЎ!

ЦЯПЕР ПАГЛЯДЗІ, ЯК Я СТРАЛЯЮ.

БАХ!!!

ЦІЎ!

НАС ПАДБІЛІ!!!

БААБАБАМ!!!

НІЧОГА, ГАЎК! МЫ ТАБЕ АДПОМСЦІМ!

ШМАТ ВАС ТАКІХ.

Я ВАМ ВЕЛЬМІ ЎДЗЯЧНЫ, ДЭТЭКТЫЎ ГАЎК!

## З КУХНІ ПРАВАСЛАЎНЫХ МАНАСТЫРОЎ

Стравы з кухні кляштараў ужо шмат стагоддзяў таму былі вядомы амаль ва ўсёй Еўропе. Многія назвы гэтых страў можна сустрэць і сёння не толькі ў кухарскіх кніжках, але і ў меню найлепшых рэстаранаў.

Хаця аскетычныя правілы жыцця манахаў і манашак патрабавалі скромнасці і самаахвярнасці, то ўсё ж не забаранялі ім клапаціцца пра страўнік бліжніх. Дзякуючы шырокаму выкарыстанню дараў натуры, а таксама ўсебаковай адукацыі і культуры манахаў і манашак, многія кляштарныя прысмакі цаніліся вельмі высока і траплялі на каралеўскія і княжацкія двары, а таксама на сталы епіскапаў.

Ад часоў сярэдневякоўя кляштары былі своеасаблівымі эксперыментальнымі сельскімі гаспадаркамі. Тут найраней вырошчвалі рэдкую гародніну, зёлкі для прыпраў і ў лячэбных мэтах, крыжавалі фруктовыя дрэўцы, разводзілі ў ставах рыбу, умела гадавалі хатнюю птушку і жывёлу. Кухні ў манастырах сталі свайго роду лабараторыямі, у якіх традыцыйная кухня ўзбагачалася навінкамі з шырокага свету.

Таямніцы кулінарнага мастацтва ведалі таксама манахі і манашкі з праваслаўных манастыроў. У шматлікіх кляштарах, якія акружалі Маскву, безупынна вяліся кулінарныя эксперыменты. Суровы клімат Расіі не дазваляў на такое развіццё агародніцтва, як у Заходняй Еўропе, дык кампенсіравалі гэта дары рускай прыроды. У лясах было поўна розных грыбоў, ягад і мёду, на лугах — зёлкі і дзіка растучая гародніна (хрэн, шчаўе, пастарнак), а рэкі і азёры не шкадавалі ні рыбы, ні ракаў.

У кніжцы „Прысмакі з манастыроў" * (у якой пра гэта пішацца) Габрыеля Аўгустыновіч сабрала 150 рэцэптаў з праваслаўнай манастырскай кухні. Большасць з гэтых страў паходзіць з тэрыторыі цэнтральнай Расіі, хоць з цягам часу яны падвяргаліся розным уплывам і мадыфікаваліся. Да тыпова рускіх страў трэба залічыць перш за ўсё розныя пірагі і піражкі на дражджах з пікантным фаршам, бліны і цэлы шэраг кіслых супоў, якія рыхтавалі на хлебным квасе (акрошкі). Рэцэпты, якія падаюцца ў кніжцы не вельмі старыя: гэта рэцэпты з XIX і XX стагоддзяў. Гэтыя рэцэпты — гэта як бы сучасныя іх варыяцыі на тэму старых праваслаўных страў.

Кухня праваслаўных манастыроў адносна простая, здаровая і не надта дарагая. Спалучае яна традыцыі рускай кухні з даволі істотнымі абмежаваннямі, дыктаванымі праваслаўем. Праваслаўная царква захавала строгія пасты, якія ў каталіцызме, дзякуючы пастановам чарговых сабораў, паступова былі злагоджаны.

У праваслаўнай царкве, як і ў каталіцкай, найважнейшым быў Вялікі Пост, які пачынаўся на сем тыдняў перад Вялікаднем і канчаўся на світанку ў Велікодную нядзелю. У часе Вялікага посту нельга было спажываць мяса і малочных прадуктаў, алей дазваляла толькі ў суботу і нядзелю, а рыба — толькі ў дзень Дабравешчання (25 сакавіка) і ў Вербніцу. Больш таго, праваслаўе рэкамендавала цалкам устрымацца ад яды ў першыя і апошнія дні Вялікага посту.

Пост перад Калядамі працягваецца 40 дзён. У перыяд гэтага посту цалкам забаранялася спажыццё мяса і малочных прадуктаў, а ў панядзелкі, серады і пятніцы нельга таксама есці рыбу і алей.

Асабліва строгі пост абавязваў калісь на Куццю. Адзінай стравай, якую елі ў той вечар, калі першая зорка блісnула на небе, былі намочаныя зярняты збожжа з сушанымі фруктамі.

Што датычыць даўжэйшых пастоў, дык варта адзначыць яшчэ Пятроў пост, які пачынаўся ў тыдзень пасля Тройцы і працягваўся да дня апосталаў Пятра і Паўла, а таксама Успенскі пост, звязаны са святам Ушэсця.

Апрача перыядаў шматдзённых пастоў, пасцілі таксама штотыдзень у серады і пятніцы ды ў некалькі іншых дзён года.

Многія з прадстаўленых тут страў, асабліва посных, маюць даволі доўгую гісторыю, сягаюць нярaз дахрысціянскіх часоў. Бадай, ужо тады належалі яны да абрадных страў. Хаця б такія стравы, як куцця ці „поснае малако" з арэхаў ці маку, якое праваслаўныя сяляне называлі таксама „бычым малаком".

Прынцып падборкі прадуктаў для падрыхтоўкі посных і святочных страў выводзіцца таксама са старажытных часоў і маюць этыя стравы язычаскую сімволіку. Сушаныя фрукты, арэхі, зярняты збожжа і маку — гэта прастары сімвал жыцця, якое згасла, але ў спрыяльных варунках можна адрадзіцца. Яйка — гэта адвечны сімвал уваскрасення, а забароненыя постам малочныя прадукты былі патэнцыяльна небяспечныя, паколькі каля яго любілі круціцца чараўніцы. Хлеб здаўна дзяліўся на кіслы (на заквасцы) і прэсны. Першы быў сімвалам жыцця, другі — сімвалам смерці і дарам, які складалі памершым.

### ПАСХА

**Прадукты:**

1 кг тлустага сыру, 1 шклянка салодкай смятанкі, 20 дэкаў цукру, 20 дэкаў масла, 5 яек, ванільны цукар, арэхі і разынкі.

Сыр прапусціць праз мясарубку, дадаць смятану, ванільны цукар, масла, жаўткі, сцертыя з цукрам дабяла, змеленыя арэхі і разынкі. Масу дакладна перамяшаць, пералажыць на сурвэтку, сурвэтку завязаць. Пасху накрыць дошчачкай, палажыць на яе камень і паставіць у халадзе, каб застыла.

### ЦАРСКАЯ ПАСХА

**Прадукты:**

1 кг тлустага сыру, 5 яек, 20 дэкаў масла, 40 дэкаў салодкай смятанкі, 40-80 дэкаў цукровай пудры (па смаку), разынкі, ванільны цукар, карыца (цынамон), міндаль.

Сыр прапусціць праз мясарубку, перамяшаць з яйкамі, маслам і смятанай. Масу пералажыць у каструльку з тоўстым дном, паставіць на агонь. Падаграваць, безупынна памешваючы драўлянай лыжкай. Калі пачне кіпець (г. зн. на паверхні будзе хоць адзін пузырок), зняць каструлю з агню, паставіць яе на лёд ці ў міску з халоднай вадой. Мяшаць, пакуль не астыне. Да астуджанай масы дадаць цукар і бакалеі, старанна перамяшаць. Пералажыць масу на сціракчі, загарнуць, палажыць вузялок паміж дзвюма дошчачкамі, на гэта — камень і паставіць у халоднае месца, каб застыла.

**ГАСПАДЫНЯ**

---------

* Gabriela Augustynowicz, Przysmaki z monastyrów, Astral, W-wa, 1992.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне ў апошнюю ноч такога наснілася, што адразу пішу табе. Баюся, што нешта здарыцца з маёй дачкой.

Сніцца мне, што мы з дачкой паехалі кудысь заграніцу, пасля аказваецца, што ў Нямеччыну. Уваходзім у нейкі вялізны будынак, а ўнізе стаяць трох мужчын: адзін — быццам паліцэйскі, у чорным; другі — эсэсавец, а трэці — у цывільным. Яны стаяць у холе, шырока расставіўшы ногі, і быццам правяраюць дакументы. Я, не паказваючы нічога, адразу іду наверх, а мая дачка застаецца ззаду і пачынае тлумачыцца. Непатрэбна! Я іду наверх, яна — за мною. Раптам бачу — сходы зрабіліся вузенькія, адна парэнча зусім абламалася, усюды сходы заляпаны фарбаю, быццам адбываецца рамонт. Але неяк мы ўвайшлі наверх, а там прыгожы калідор, а ў ім стаяць зялёныя-зялёныя вазоны. Галінка з аднаго вазона абламалася і ляжыць побач. Я ішла за дачкой. Калі я апынулася наверсе, бачу, што яе няма. Іду шукаць пакой, у які яна ўвайшла. Прачынаюся.

Пасля прыснілася, што іду я да дачкі. Сходы каля іхняга пад'езда ў блёк нейкія вышчарбленыя, пліткі крывыя, паламаныя. У яе хаце нейкі цяжка хворы стары, але не наш сваяк.

Што будзе, Астроне?

**Леакадыя**

Леакадыя! Тваю дачку чакае нейкая небяспека, бадай, будзе гэта хвароба. Але павінна выйсці з яе. Тая зелень гаворыць за тое, што можна мець надзею на выздараўленне.

**АСТРОН**




### ПАВАЖАНЫ СП. М.ЛУК'ЯНЮК!

Мне цалкам не горка за Вашу адгалоску ў 12 нумары "Нівы"; я цаню ўсе Вашы артыкулы і нічуць не гневаюся на Вас. Тут, аднак, Вы памыляецеся, пішучы: "Калі добра падумаць, дык мне здаецца, што Ленін ішоў добрай дарогай, а толькі Сталін яе зблытаў і ўсё перавярнуў уверх нагамі". Гісторыя дакладна даказала, што, калі б не было ленінізму, дык не паўстаў бы і сталінізм, а асоба Сталіна не была б варта і пагаслай свечкі. У сваёй кар'еры ён магчыма дайшоў бы толькі да пасады дыякана, бо вучыўся ў духоўнай семінарыі і за дрэнныя паводзіны вучня Джугашвілі адтуль выкінулі. Толькі ленінізм мог так высока яго падняць. Раю Вам прачытаць кнігу польскага пісьменніка Асэндоўскага п.з. "Ленін". У ёй аўтар на падставе фактаў паказвае д'ябальскі характар і садыстычныя схільнасці Леніна, якія бальшавікі затаілі, каб прадставіць яго амаль мучанікам.

Папракаеце мяне ў тым, што я калісьці пісаў пракамуністычныя артыкулы. Крыху праўды ў гэтым ёсць, бо ў партыю ўступіў з прызвання, а пасля, як і многія іншыя, расчараваўся ўсёй гэтай камуністычнай маной і з 1983 года (яшчэ пры камуне) больш ужо партыі не хваліў.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**



## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 2/ нешта дарагое, 4/ той, хто жыве за чужыя сродкі, 6/ кафедральная царква, 7/ напрыклад, паказ, 9/ прыток Волгі, 11/ горад на поўначы Беларусі, 12/ адно з беларускіх плямён, 13/ колішні жыхар нашых лясоў, 15/ сталіца П'емонта, 17/ бой, 18/ вядзе ўлік, 19/ частка гідрасферы.

**Уніз:** 1/ жыве над Прыпяццю, 2/ форма кансервацыі ежы, 3/ посуд, 4/ высокі, шматпавярховы дом, 5/ вада, якая застаецца за суднам, 6/ рака ў Румыніі, 8/ не сын, 9/ мяч за рысай спартыўнай пляцоўкі, 10/ мера зямельнай плошчы ў Англіі, 14/ мемуар, 16/ хтосьці, 17/ белы хлеб прадаўгаватай формы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 8 н-ра. Управа:** цыган, шакалад, цемната, штуршок, чарапок, цнота. **Улева:** чытач, чалавек, чарната, штурвал, цоканне, шорты.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва"

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры белпірагійскія*

### „ВОСІ"

Загрукаў у акенца госць,
Прадставіўся: „БТ — Вось..."
Ён прыйшоў з Усходу,
Адраджэнец з роду.
Маўляў, з гэтай марай рос,
Выпрамляў гарбаты лёс,
БАМу адкрываў цану
Ї пластаваў цаліну,
А ў застойную пару
Перапрудзіў Ангару,
Намячаў падзеі,
Будаваў надзеі...
Дык адчуўшы часу гул,
Рынак узяў на каравул...
— Вось які я, без размінкі
У рыначныя іду абдымкі!

Прадстаўнічы (спадар? пан?)
Белпірожны капмен */ сан.
Новы курс у „БТ"! Наскрозь
Гегемонія „Вось-вось".
А я б'ю трывогу,
„Восяў" у аблогу!
Адродзім нацыю
Праз дэ*вос*ізацыю!

**СІДАР МАКАЦЁР**

-------------------
*/ капіталістычнага менталітэту







## АНЕКДОТЫ

— З увагі на адсутнасць дастатковых доказаў, закід аб мнагажонстве падсуднага адхіляецца! — абвесціў суддзя.

— Вельмі дзякую, — кланяецца Кастусь.

— Можаце цяпер ехаць да жонкі.

— А да каторай, пане суддзя? — ажывіўся Кастусь.

* * *

Сядзяць у турме два злодзеі: адзін — за крадзеж каровы, другі — за крадзеж гадзінніка. Той, што ўкраў карову, вырашыў пасмяяцца над суседам і пытае:

— А ці не скажаш, якая гадзіна?

Той глянуў на руку і адказвае:

— Якраз пара карову даіць.

* * *

Малады хлопец, атрымаўшы па бацьку гаспадарку, выбраўся на кірмаш і купіў карову. Калі вяртаўся дамоў, дагнала яго суседава дачка. Дайшлі да лесу і тут дзяўчына сарамліва кажа:

— Я баюся з табою ісці цераз лес.

— Ды што ты, у мяне рукі заняты. Карову ж вяду!

— Які ты нездагадлівы, — кажа дзяўчына. — Карову можна ў лесе прывязаць.

* * *

Сустрэліся дзве жанчыны ў лесе:

— Не баішся адна грыбы збіраць?

— А чаго?

— А як выйдзе звер ці хто чужы?

— Ну і што ж. Летась выйшаў мужчына. Спачатку спалохалася. Але дарма, адыходзячы нават пацалаваў.

* * *

— Вам, пэўна, сумна без мужа? — спачувальна звяртаецца сусед да суседкі-ўдавы.

— Зусім не! Маю ўсё, што поўнасцю заступае мужа: папугая, які лае, аж вушы вянуць, малпу, што сядзіць з носам уваткнутым у газету, і ката, які вяртаецца дадому на досвітку.

* * *

— Ты ўчора казаў, што пойдзеш да Васіля, а, аказваецца, цэлую ноч правёў у карчме! — дакарае жонка Парфена.

— Зусім я не маню. Васіль якраз і быў у карчме, — апраўдваецца Парфен.

* * *

Кастусіха павучае Кастуся:

— Госці няхай выпіваюць па цэлай шклянцы, а ты пі па палавіне.

— Я дробаў не ведаю, — сціснуў плячыма Кастусь. — Сярод гасцей ёсць больш пісьменныя, дык няхай сабе і дзеляць.

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ЧАСТКА ЗАРОБКУ

— Нашае жыццё поўнае самаахвяравання, — сказаў Святар. — У той час, як іншыя ганяюцца за забавамі і ўцехамі, мы начамі б'емся над тым, як раскалоць найцвярдзейшыя тэалагічныя арэшкі. І што мы з гэтага маем?

— Ну, — задуменна адказаў адзін з яго Парафіян, — напрыклад, ядры.

### ВОЎК І ЧАРАПАХА

Воўк, сустрэўшы Чарапаху, заўважыў:

—Дружа, ты самая павольная істота, якую я ведаю. Не разумею, як ты ратуешся ад ворагаў?

— Хаця я і не магу добра бегаць, — адказала Чарапаха, — вышэйшая сіла надзяліла мяне цвёрдым панцырам.

Доўгі час Воўк думаў і нарэшце сказаў:

— Як на мяне, дык тая сіла настолькі ж лёгка магла даць табе доўгія, хуткія ногі.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

## ЛУШЧЫЦЬ ЦІ ГЛЫТАЕ?

Гэтае прыдарылася ў пачатку шасцідзесятых гадоў нашага стагоддзя. За сваёй стадолай, як казалі, на агародзе, Ігнась пасеяў авёс. Прайшло некалькі дзён. Ігнась ранютка, „чуць свет", пайшоў паглядзець свае пасевы. У той час падыйшоў да яго сусед Антон, якога празывалі Буслам — таму, што быў высокага росту: як лягаў на ложак, то ногі закідаў на хлебную печ. Вось той Антон і кажа суседу Ігнасю: „Глядзі, Ігнась, як гэтыя вароны твой авёс лушчаць". „Не лушчаць, але цалком глытаюць", — адказвае Ігнась. А Антон увесь час яму цвердзіць, што „лушчаць", а Ігнась яму, што „цалком глытаюць". Не могучы дайсці да згоды, або, як кажуць, да кампрамісу,ззлавалі яны на сябе. Ігнась, крыкнуўшы: „кажу табе, цалком глытаюць!", і „на вот табе!", сунуў хвігу ў зубы Антону. Антон, доўга не чакаючы, загарлапаніў: „а вот я табе кажу, лушчаць!", і моцна тыкнуў хвігу Ігнасю.

Абодва былі ўжо пажылымі людзьмі, пазногці ў іх былі тоўстыя і цвёрдыя, а зубы жоўтыя і слабыя. Амаль аднначасова хапілі яны адзін аднаго за зубы рукамі. Плюнуўшы, Антон убачыў у сваіх далонях адзін пярэдні зуб, а Ігнась у сваіх — два свае зубы.

Такім чынам цераз тыя вароны людзі страцілі свае зубы, а вёска мела з чаго весяліцца. І было яшчэ весялей, калі справа трапіла ў павятовы суд. На суд паглядзець пайшлі тлумам дзве вёскі. Суддзя ледзь мог весці справу. Такога кабарэ нельга прыдумаць ці пабачыць на эстрадзе, як паказалі перад суддзёю Антон з Ігнасём. Але потым яны ўсё-такі пагадзіліся і больш не сварыліся. А вяскоўцам доўгі час было з чаго пасмяяцца. У той час часта траплялісяя такія цікавыя здарэнні. Людзям жылося весела і без тэлевізара.

**У. ЦІЛЮЛЬКА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Алень і мужык зайшліся *раве*люцыйным спевам.
Алень раве з любошчаў, а мужык ад гневу.

* * *

У воску пачуццяў дрыготкі агеньчык сэрца.

* * *

Пажадала кобра жыць доўга і добра.

**БАРЫС РУСКО**




Дарагое Сэрцайка! Пачатак маёй маладосці не быў занадта ружовы. Пайшла я з хлопцам на прыватку. Пераканаў мяне, што не выпадае быць дзеўкай у семнаццаць гадоў. А ў васемнаццаць я стала маці. Адвярнуўся ад мяне, нават слухаць не хацеў. І надоўга-надоўга засталася я адна. Дзякуй Богу, што бацькоў маю добрых. Дапамаглі мне вучыцца і стаць на ногі. Я пачала працаваць у дзяржаўна-такі мужчынскім асяроддзі і, здавалася, магла выбіраць каго хацела. Цяпер, калі я ўжо была самастойная і лічылася на рабоце, маё няшлюбнае дзіця нікому не перашкаджала. Ад хлопцаў адбою не было, а выбрала я чалавека вельмі скромнага.

Не ведаю, чаму менавіта ён прыпаў мне да сэрца. Можа зачараваў сваёй далікатнасцю, нясмеласцю. Іншыя хлопцы былі даволі нахальныя, агрэсіўныя, адразу цягнулі мяне ў пасцель. Паводзілі сябе так, быццам увесь час напаміналі мне, што я калісь „пусцілася"; значыць, і яны без праблемы маглі атрымаць „сваё". Мяне гэта вельмі прыбівала. Няўжо, калі ўжо раз я паслізнулася, дык трэба мяне трактаваць як нейкую прастытутку?..

А гэты хлапец быў зусім іншы. Нягледзячы на тое, што ў мяне было дзіця, ён трактаваў мяне як дзяўчыну, быў ласкавы, стараўся мне дагадзіць, дарыў кветкі. Я не заўважыла нават, калі пакахала яго. Я запрасіла яго да нас дахаты. Мая малая вельмі спадабалася яму. Гуляў з ёю, насіў яе на руках, цалаваў, быццам бы гэта была я. Заўсёды прыносіў малой нешта салодкае. Мяне ўсё гэта вельмі кранала.

Месяцы праз два пасля таго, як мы сустрэліся, я аддалася яму. Можна сказаць, што гэта я была ініцыяткай нашага першага інтымнага спаткання. Запрасіла яго, калі бацькі з малой выехалі на вёску. Высветлілася, аднак, што ў пасцелі быў гэта цудоўны хлопец. Магчымасці ў яго былі неабмежаваныя. Ды толькі і тут вось быў крыху нясмелы.

Набліжаўся новы год. Бацькі згадзіліся, што пабудуць з малой, і мы вырашылі паехаць у Будапешт з экскурсіяй. Там нам прыдзялілі прыгожы пакой, у якім мы маглі свабодна кахацца, колькі хацелі. Пайшлі толькі на сільвестравы баль ды паехалі на пару экскурсій, а большасць часу з гэтага тыдня правялі ў пасцелі.

Усё яшчэ ён неяк саромеўся мяне (ён крыху малодшы). Найбольш любіў кахацца, калі я адварочвалася ад яго. Быццам баяўся, каб я не падгледзела яго, хаця сам вельмі любіў аглядаць мяне з усіх бакоў. Ложак наш у гатэлі стаяў у куце (фактычна гэта былі два ссунутыя ложкі), а наўкола была бліскучая цёмная баазерыя. Ён без памяці абцалоўваў мяне ззаду, а яго вялікія „габарыты" не мясціліся поўнасцю ўва мне. Я глянула на бліскучую дошку побач з ложкам і ўбачыла ўсё, як у люстэрку. „Як мы прыгожа выглядаем!" — сказала толькі я, а ён сарамліва адказаў: „Ці ты не ведала дагэтуль, што ты прыгожая?!" Мы кахаліся, як шалёныя. І так канчаткова растаяў лёд паміж намі.

Прыехаўшы дахаты, мы вырашылі пажаніцца. Думаю, што нясмеласць — гэта не такі ўжо страшны недахоп. Праўда, Сэрцайка?!

**Данка**

Данка! Так папраўдзе, дык не такі ўжо ён і нясмелы. А дробязі ліквідуюцца, калі хлопец трапіць на баявітую дзяўчыну. Думаю, што ўсё будзе добра.

**СЭРЦАЙКА**